# КАНТАКТ

ШЛЯХІ БЕЛАРУСКАЙ ДУМКІ 1989 № 2

## Ад рэдакцыі

Першы нумар "Кантакту" выклікаў супярэчлівыя рэакцыі чытачоў і каментатараў. Адны віталі яго з'яўленне добрым словам, маральнай і матэрыяльнай падтрымкай, а іншыя ўгледзелі ў ім ледзь не дынаміт, які павінен нешта ўзарваць, разбурыць. Гэта, бадай, нармальна.

Сярод негатыўных ацэнак нашага часопіса на асаблівую ўвагу заслугоўваюць выказванні дзвюх,процілеглых па сваёй накіраванасці, газет - "Вячэрняга Мінска" /26 IУ 1989/ і беластоцкай "Салідарнасці" /IO IУ 1989/. Калі першая з іх назвала "Кантакт" ледзь не прапагандыстам фашызму, то другая не выключала яго ролі, як агентуры Крамля. Незвычайны дыяпазон уяўленняў!

Гэтыя ацэнкі даволі трапна адлюстроўваюць нашу задуму быць часопісам не БССР-аўскім, ПНР-аўскім /беластоцкім/ ці эміграцыйным але незалежным агульнабеларускім, старонкі якога будуць даступныя для асэнсоўвання беларускага пытання з розных пунктаў гледжання. А процілегласць ацэнак - ад фашызму да крамлёўскай агентуры - як жа пераканаўча сведчыць аб складанасці гэтага пытання, аб кантраверсійным яго ўспрыманні, як у гістарычных, так і сучасных аспектах.

На жаль, многія істотныя аспекты беларускай справы ўсё яшчэ не могуць свабодна разглядацца ў афіцыйным друку БССР, ПНР ці Паўночнай Амерыкі, аб чым сведчыць м.інш. палеміка Сачанкі з Акулам у сёлетняй майскай "Маладосці".Гэта нібыта зразумела: у кожнай краіне існуюць акрэсленыя палітычныя абумоўленні, якія абмяжоўваюць свабоду выказванняў. Адзін з прыкладаў: на Захадзе і ў Беластоку прапагандуецца ўдзел беларусаў у штурме Монтэ Касына, аднак замоўчваецца іх удзел у абароне гэтай крэпасці.

Рэдакцыя вітае новых супрацоўнікаў з Беларусі, Літвы, Польшчы і ЗША і спадзяецца на далейшы абмен думкамі, м. інш. палемічнага характару. Адначасова паведамляем, што "Кантакт" не прадугледжвае публікацыі мастацкай творчасці,за выключэннем фельетонаў, вершаў, графікі і т. п., якія ў мастацкай форме асэнсоўваюць канкрэтныя палітычныя эпізоды сучаснасці ці мінуласці.

Значную заклапочанасць рэдакцыі выклікае разнабой у беларускім правапісе, які адлюстроўваецца і ў нашым выпуску. Акцэптуючы пакуль што, пажаданні аўтараў у гэтай галіне, лічым найменш карыснымі "рэвалюцыйныя пераўтварэнні", якія адмаўляюць "сталінскі" правапіс, але не прыносяць узамен паслядоўнай альтэрнатыўнай сістэмы. У выніку пашыраецца валюнтарызм і жалюгодны хаос. З нецярплівасцю чакаем аўтарытэтнага рашэння Акадэміі Навук.

## З'езд БНФ

### З праграмнага дакладу З. Пазьняка

Шаноўныя дэлегаты, сябры, дамы і панове.

Рух Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне" сёньня зьяўляецца грамадзкай палітычнай рэальнасьцю. У руху удзельнічаюць тысячы людзей - грамадзян рэспублікі. Ігнараваць гэты рух ужо нельга, як бы ні старалася ў гэтым цяперашняе кіраўніцтва БССР, дзейнасьць якога заснаваная на нацыянальным нігілізме, на непрыняцьці нацыянальнай культуры, вырачэньні народных каштоўнасьцяў. Дзе гэта бачана, каб кіраўнік кампартыі рэспублікі ня ўмеў гаварыць на роднай мове, не клапаціўся б пра яе лёс! Дзе гэта бачана, каб сакратар абкаму публічна заяўляў, што ён не разьбіраецца "в национальных вопросах!" Дзе гэта бачана, каб таптаці нацыянальную гісторыю, каб зьневажалі сымболі Бацькаўшчыны, каб на дэградацыю, на выміраньне штурхалі народ!

Гэта пачалося даўно... Сталінізм распраўляўся ня толькі з сялянствам і інтэлігенцыяй. Пры ім была растаптаная гістарычная памяць народа, разбураныя сьвятыні, абпляваныя дзеячы мінуўшчыны, зьняважаныя аўтарытэты. У 1933 годзе ў прымусовым парадку была праведзеная рэформа беларускага правапісу, насаджаўся русіфікаваны жаргон.

Страшна тое, што за гады сталінскага генацыду Беларусь страціла звыш двух мільёнаў сваіх жыхароў. Але яшчэ больш страшна тое, што за гады масавых вынішчэньняў, за гады прыгнёту адбылася дэфармацыя грамадзкай псіхалогіі, стварыўся бюракратычны тып нацыянальнага нігіліста, усталявалася антынародная сістэма ўлады, якая штурхала народ да нацыянальнага самагубства.

На месца расстраляных у Беларусь прысылаліся кіраўнічыя кадры з РСФСР. І першае, чым яны пачалі займацца, - зачыняць беларускія школы. Гэтая палітыка выхавала легіёны кіраўнікоў-рэнегатаў, нацыянальных нігілістаў і апаратных функцыянераў, кодэксам годнасьці якіх сталі непрыняцце мовы і зьнявага Бацькаўшчыны. Да 1989 года ў беларускіх гарадах, дзе большасьць насельніцтва /71%/ беларусы, не засталося ніводнай беларускай школы. Наша мова зусім выгнаная з дзяржаўнага ўжытку і справаводства. Абнізілася бытавая культура і мараль, распадаюцца гуманістычныя народныя традыцыі, зьнішчаецца прырода, краявіды роднай зямлі, разбураецца чалавечая асоба.

За чатыры гады перабудовы шмат што зьмянілася ў суседніх рэспубліках, але мала што - на Беларусі. І ў кіраўніцтве БССР, і ў Маскве прызвычаіліся глядзець на рэспубліку, як на нарыхтоўчую кантору. Нарыхтоўваюць нават там, дзе радыяцыя 100 кюры на квадратны кіламетр, дзе ніхто не павінен жыць і ніхто не жыве, акрамя беларусаў. Гады трагедыі, гады таямніц і гады хлусьні. Палова тэрыторыі рэспублікі ў радыяцыйнай небясьпецы. Трайны генацыд вісіць над нашай зямлёй: сталінскі, "культурны" і радыёактыўны. І калі б у такіх абставінах усе маўчалі, - гэта знак, што мы гінем, зьнікаем з карты сусьвету.



Ане мы жывем. І штуршком да адраджэньня і стварэньня Народнага Фронту стала перш за ўсё веданьне пра генацыд.

Вось хроніка апошняга года.

19 чэрвеня 1988 года дзесяткі тысяч людзей прыйшлі ў Курапацкі лес на магілы забітых. Улады не дазволілі мітынг... Кадры відэахронікі: балючыя вочы Маі Кляшторнай поўныя сьлёз. За сьпінаю 17 гадоў карлага і закатаваныя бацькі. Тысячы людзей журботна стаяць у маўчаньні. Задуменныя юнакі. Іх гарвыканком пакарае штрафам за памяць пра Курапаты.

19 кастрычніка ў Менску адбыўся ўстаноўчы сход таварыства памяці ахвяраў сталінізму "Мартыралог Беларусі". На сходзе прысутнічала 350 чалавек з усяе рэспублікі, прадстаўнікі навукі і культуры, усіх творчых саюзаў - цьвет інтэлігенцыі. На гэтым сходзе быў створаны і зацьверджаны Аргкамітэт БНФ "Адраджэньне". За ўсю пасьлясталінскую пару ніколі не было такой шалёнай азлобленай кампаніі дэзінфармацыі, паклёпу і пагрозаў супраць беларускай інтэлігенцыі, якую разгарнуў пасьля 19-га кастрычніка ў рэспубліканскіх сродках масавай інфармацыі кіраўнічы партыйны апарат.

У канцы кастрычніка стаў зразумелы злавесны сэнс гэтай кампаніі ў прэсе. Рыхтавалася крывавае злачынства. Нагодай паслужыла ігнараваньне грамадзкіх арганізацыяў горада правесьці на восеньскія "Дзяды" мітынг-рэквіем памяці забітых і закатаваных продкаў. 30-га кастрычніка да Усходніх могілак, Курапатаў і ваколіц было сьцягнута некалькі тысяч міліцыянтаў і батальёны сьпецвойскаў, 12 ваенных пажарных вадамётаў, дзесяткі закратаваных машын, аўтобусаў і іншай тэхнікі. Людзей хапалі, труцілі слёзацечным газам, выламвалі рукі, штурхалі жанчын, зьневажалі, білі гумовымі дубінкамі. Усіх схапілі 72 чалавекі. Потым стала вядома, што мы былі за крок ад крывавых рыдлёвак і куль. Такое было хрышчэньне Беларускага Народнага Фронту.

На пачатку на хвалі ўздыму БНФ разьвіваўся даволі энэргічна, асабліва ў Менску. Перад новым годам было зарэгістравана некалькі сот групаў падтрымкі. Спробы Аргкамітэту наладзіць дыялог з партыйнымі і дзяржаўнымі органамі не прынесьлі посьпеху. Кіраўнічы апарат катэгарычна не прызнаваў і не прызнае існаваньне БНФ. Рабіліся спробы перарадзіць Аргкамітэт знутры, зрабіць яго лаяльным да бюракратыі. Але з гэтага нічога не атрымалася.

19 лютага ўлады ўпершыню дазволілі Фронту правесьці мітынг на стадыёне "Дынама". Апаратчыкі спадзяваліся дыскрэдытаваць Фронт і ганебна праваліліся. Стадыён, каля 40 тысячаў чалавек, падтрымаў "Адраджэньне". Тым ня менш на працягу тыдня пасьля мітынгу афіцыёзная прэса граміла мітынг, паведамляючы даверлівым суайчыньнікам быццам народ выразіў недавер Фронту.

Найбольш карысная для практычнага арганізацыйнага афармленьня БНФ стала выбарчая кампанія. У Менску былі выбраныя практычна ўсе тыя, каго падтрымліваў і за каго агітаваў Народны Фронт. А кандыдат "Адраджэньня" Мікалай Ігнатовіч, які прыняў усе асноўныя прынцыпы БНФ, бліскуча перамог на выбарах у рабочых раёнах Менску. Некаторыя "ідэолагі", крытыкуючы Народны Фронт, надта любяць спасылацца на "мнение" рабочага класа. Можна падумаць, быццам рабочы клас - галоўная апора бюракратыі.

Партыйная бюракратыя не прызнала паражэньня на выбарах у Менску ад БНФ. Скардзяцца на дрэнную працу парткамаў,заклікаюць удасканальваць метады і падыходы, уменьне растлумачыць свае ідэі ігд. 70 гадоў удасканальваюць метады растлумачэньня ідэі.

I-га траўня гэтага года прыхільнікам Народнага Фронту забаранілі ўдзельнічаць у дэманстрацыі працоўных Менску. Вуліцу перагарадзілі нарады міліцыі. Калона БНФ пайшла ў адваротным кірунку. Потым за ўдзел у Першамайскай дэманстрацыі шмат на каго завялі справы.

Асноўныя мэты і задачы Фронту засьведчаныя намі ня раз.Мы за такую дзяржаву, у якой свабодны народ адчуваў бы сябе гаспадаром сваёй зямлі і ўласнага лёсу. Мы за такое грамадзтва, у якім не марнуецца чалавечая праца, ня нішчыцца народная зямля, культура і мова, дзе свабода сумленьня, дзе дзеці шануюць бацькоў, а маткі любяць сваіх дзяцей, мы за грамадзтва, якое гарантуе будучыню сваім грамадзянам.

БНФ адрозьніваецца ад аналагічных рухаў Прыбалтыйскіх краін тым, што нацыянальная кансалідацыя беларусаў адбываецца на аснове палітычных і дэмакратычных патрабаваньняў. У Прыбалтыцы наадварот: нацыянальная кансалідацыя ёсьць аб'ектыўным мацуючым фактарам руху. У грамадзтве няма больш моцнага кансалідацыйнага пачатку, чым нацыянальная сьвядомасьць. Таму рухі ў Прыбалтыцы адразу сталі масавымі, усенароднымі, а ў Беларусі рух разьвіваецца спакваля,разам з ростам нацыянальнае сьвядомасьці, бо палітычнае аб'яднаньне -- вельмі зыбкая, няўстойлівая і малакансалідацыйная аснова ў грамадстве. Яна кансерватыўная і разбуральная адначасова. Нацыянальная ж культурная сьвядомасьць - гэта стваральная і творчая сіла. I заўсёды з рухам за самавызначэньне выяўляюцца імкненьні да салідарнасьці з іншымі народамі, якіх яднаюць агульныя варункі і лёс. Гісторыя і свабода яднаюць нас мацней, чым любая ідэалагічная дактрына. Мы за свабоду нацыяў і народаў, забесьпячэньне прадстаўнікам усіх нацыяў права на захаваньне сваёй мовы і культуры, права на сацыяльную справядлівасьць, аўтаномію асобы. Надыходзяць часы, калі мэжа вырашыцца лёс Беларусі.

## З прамовы айца Яна Матусевіча

Глыбокапаважаныя удзельнікі і госьці зьезду!

Ад імя шматлікіх сьвятароў Беларусі, якія моляцца Богу на сваёй матчынай мове, і каталікоў шлю вам найсардэчнейшае пажаданьне посьпехаў на карысьць адраджэньня Беларусі.

Гісторыя нашага народу склалася вельмі трагічна. Цяжкасьці, якія беларусы сустракалі на шляху да свайго нацыянальнага адраджэньня, толькі цяпер робяцца поўнасьцю вядомымі. Разам з вынішчэньнем народу ішло змаганьне за душу беларусаў, спробы адабраньня ад нас нашай нацыянальнай годнасьці, нашай гісторыі, культуры, мовы, адмаўленьне нам у праве, як сказаў наш вялікі пясьняр Янка Купала, "людзьмі звацца".

Сумна тое, што і сёньня, пры зьмененых палітычных абставінах Каталіцкая царква ў Беларусі зьяўляецца маленькай, нацыянальна чужой, рэлігійнай установай, якая ня мае ніякага значэньня ў беларускім нацыянальным жыцьці. Такім чынам робіцца вялікая крыўда беларусам, асабліва цяпер, калі многія з іх расчараваныя ў матэрыялістычным сьветапоглядзе, шукаюць нечага новага, каб запоўніць духоўную пустэчу. Мімаволі позіркі іх зьвяртаюцца ў бок Каталіцкай царквы... Аднак стары касьцёл на Беларусі перажывае глыбокі крызіс. Дарэчы, прыйшлося мне неяк размаўляць напярэдадні адкрыцьця касьцёлу ў Менску з адным партыйным чыноўнікам. Я сказаў, што трэба было б дазволіць весьці касьцельную службу і казаньні па-беларуску. "Ну да, - адказаў чыноўнік, - если ксендзы начнут служить по-белорусски, то вы все, писатели, националисты, побежите в костел богу молиться. Мы не собираемся укреплять католицизм в Белоруссии. Пускай себе доживает по-польски, немного осталось".

Каталіцкая царква ў Беларусі стаіць на раздарожжы: або зачыніцца ў гэта невялічкай нацыянальнай меншасьці, бяз шансаў на будучыню, або, прыпомніўшы загад Збавіцеля - "Ідзіце і навучайце ўсе народы", - павернецца тварам да насельніцтва краіны, спрагнёнага духоўнай стравы.

## Тэкст прамовы Васіля Быкава

Вялікі клопат і нязгасная трывога сабралі нас тут, у слаўным і сьвятым горадзе на суседзкай зямлі. Клопат за нашу сучаснасьць і найбольш - за нашу будучыню. Пад пагрозай выміраньня наша культура, наша старажытная мова. Дамагчыся іх аднаўленьня старымі бюракратычнымі мерамі, мерамі пастаноў і камісій, мусіць, марная справа. Для таго патрэбны высілкі ўсёй грамады. Але каб намагчыся на тыя высілкі, перш трэба ўсьвядоміць, што нам пагражае, і хоць неяк сарганізавацца. Патомкі нам не даруюць, калі на жыцьці нашых пакаленьняў перапыніцца гістарычны шлях нацыі і на яе касьцях народзіцца бяспамятнае племя манкуртаў.

Ужо відаць пэўна, што эканоміка нашай рэспублікі напярэдадні краху, і калі ня будуць прынятыя радыкальныя меры, у хуткім часе нас чакае галеча, картачная сістэма, усеагульная беднасьць,пакутны лёс заняпалай краіны. Дзіўна, што тыя, ад каго ўсё залежыць, зачараваныя магіяй планаваньня і планавыкананьня, ня хочуць усьвядоміць, якая бяда насоўваецца на рэспубліку. Наш рух не дамагаецца ні багацьця, ні ўлады, але мы ня хочам усеагульнай галечы і прагнем справядлівасьці.

Здаецца, што беларускі народ за сваю драматычную гісторыю заслужыў лепшай долі, чым тая, якою яго адарыла шматгадовае панаваньне бюракратычнай сістэмы. Урэшце, толькі сьляпы ня бачыць, што сістэма аджыла сваё і ўжо ня можа даць народу нічога. Цяпер яна занепакоена адным: праблемаю сваёй улады, як зрэшты і заўсёды.

Шматпакутны народ Беларусі не баіцца цяжкасьцяў, не цураецца працы. Ён толькі хоча, каб гэтая праца не была марнай і ішла на карысьць хоць каму-небудзь, калі не яму самому. Нядаўнія дзесяцігодзьдзі, аднак, засьведчылі, што гэта элементарнае спадзяваньне і само праблематычнае. Напружаная праца мільёнаў, шматгадовае абмежаваньне імі сваіх элементарных патрэб замест належнага плёну несьлі гора ды расчараваньне. Варта прыпамятаць, што нам даў Афганістан, Афрыка, Блізкі Ўсход, Цэнтральная Амерыка. Колькі яны каштавалі і чым адплацілі! Усё тое - несумненны вынік хворых амбіцый, бескантрольнасьці і імперскай прагнасьці нядаўняга палітыч-

нага кіраўніцтва. Нацыянальныя і эканамічныя катаклізмы сацыялістычных краін – таксама вынік яго нецярпімасьці, паліцэйскай па сутнасьці знешняй палітыкі. Увесь сьвет сацыялізму ўстрывожаны крызісам у які яго ўвялі і шукае выйсьця. [выйсьце]

Сотні разоў ашуканыя мы свае павінны знайсьці самі. Наш рух за перабудову зьяўляецца нацыянальным па форме і дэмакратычным па зьмесьце. У ім знойдзецца месца ўсім нацыям, з якіх складаецца народ Беларусі. Мы не выдзяляем з яго нашых кроўных братоў па зямлі і лёсу – рускіх людзей, якія даўно і бязвінна пакутуюць разам з намі, таксама як і трагічную яўрэйскую нацыю, з якой на працягу ўсёй нашай гісторыі мы дзялілі небагатыя набыткі нашай зямлі. Палякі і літоўцы – нашы гістарычныя браты і мы маем безліч сьведчанняў сумеснага, сапраўды братняга існаваньня ў межах адной экалогіі адной культуры і нават адной дзяржавы. Калі тое было магчыма на зары нашай гісторыі, дык чаму гэта немагчыма зараз? Н-арод павінен стварыць дзяржаву на сапраўды дэмакратычных пачатках. Рэспубліку для ўсіх, хто ў ёй жыве і паважае яе гісторыю, мову,яе культуру.

У тым мы не адзінокія. У нас ёсьць выдатны прыклад нашых братоў – прыбалтыйскіх народаў. У гэты судзьбаносны час яны аказаліся мудрэй, больш дальнабачныя за нас. Іх палітычная воля творыць цуд і мы жадаем ім посьпеху. Болей таго, мы ідзём сьледам, спадзеючыся на жыватворную сілу іхняга прыкладу, іхнюю дапамогу. Тое, што мы ў гэтым будынку, у сьвятой для нашых народаў Вільні-шайлепшы з магчымых доказаў нашай дружбы і еднасьці. Але гэта толькі пачатак. Посьпех усёй нашай справы будзе залежаць ад ступені нашай палітычнай і нацыянальнай сьвядомасьці. Таму – за справу, за працу!

Мы верым у чалавекалюбівую мудрасьць Масквы,розум рускай інтэлігенцыі, ЦК нашай партыі. Мы надта спадзяемся, што вялікі прараб гістарычнай перабудовы, Міхаіл Гарбачоў, нас падтрымае. Іначай ня можа і не павінна быць. Мы ступілі на цяжкую дарогу дэмакратычнага пераўтварэньня жыцьця і на гэтай дарозе нас, мусіць, чакае рознае, але мы маем упэўненасьць: зорка нашага лёсу сьвеціць нам сьпераду. Ззаду – галеча, змрок, сталінскі таталітарызм. Таму з вялікім клопатам і ня меншай надзеяй адгорнем новую старонку нашай шматпакутнай гісторыі.

/Тэксты выступленняў падаюцца паводле "Экспрэс-інфармацыі ўстаноўчага з'езду БНФ ад 25 чэрвеня I989 г. – рэд./

---



Заява Зянона Пазняка, зробленая I5 траўня I989 г. на прэсканферэнцыі для замежных журналістаў пад час Балтыйскай Асамблеі ў Таліне

Вопрос касается положения в Белоруссии, Республики, которая является членом ООН. Белоруссия в I930-I950-х годах испытала ужас сталинского геноцида и уничтожения национальной культуры. За годы сталинизма в Республике было убито свыше двух миллионов человек, почти каждый четвертый. Была уничтожена почти вся интеллигенция. Символом сталинского геноцида в Белоруссии стало обнаруженное в прошлом году под Минском место массовых расстрелов – Куропаты. С I937 по I94I год там было расстреляно и закопано около 250 тысяч человек. Сейчас вокруг Минска обнаружено шесть таких мест сталинских убийств. Выяснено также, что аналогичные "душебойки" были вокруг каждого крупного белорусского города. Если в I920 году население Белоруссии составляло свыше I2 млн. человек, то к началу Второй мировой войны – 9 млн. 2оо тысяч человек. Огромное опустошение принесла белорусскому народу Вторая мировая война. Начиная со второй половины I940-х годов, на место уничтоженной национальной интеллигенции, сотрудников партийного и государственного аппарата систематически присылались кадры из внутренних областей РСФСР. Такова была сталинская политика денационализации и русификации Белоруссии. Закрывались белорусские школы, изгонялся из государственного употребления национальный язык, разрушались памятники культуры, фальсифицировалась история, преследовалась религия. Унижали народ. В результате сегодня в городах Республики не осталось ни одной белорусской школы. Белорусский язык изгнан практически из всех сфер государственной и общественной жизни. Вот результат культурного геноцида, который мы расцениваем как национальную катастрофу. Поэтому возрождение нации должно стать смыслом существования целых поколений.

В I986 году произошла катастрофа, которой не было никогда. Чернобыльская атомная станция находится в пяти километрах от белорусской границы. На протяжении недели после взрыва ветры дули в сторону Белоруссии. Тонны радиоактивного вещества выпали на территорию Республики. Более того, когда стронциево-цезиевые тучи повернули в сторону Москвы, их искусственным путем осадили над Белоруссией, прямо на головы жителей Могилевской области. Событие долго держалось в тайне от населения республики и от всего мира. И теперь покров тайны снят лишь частично. Не применяется никаких эффективных мер, не выселяют ни взрослых, ни даже детей. Между тем радиация в юго-восточной части Могилевской области выше, чем в Чернобыльской зоне и достигает местами от 45 до I00 кюри на кв. км., при гранично допустимой величине до I5 кюри на кв. км. В зоне очень опасной для жизни находится свыше I00 тысяч человек. В настоящее время уже больны лейкемией десятки тысяч белорусских детей Это не считая других болезней, связанных с понижением иммунитета от радиоактивного воздействия. Начался рост раковых заболеваний, хотя по прогнозам ученых это должно было случится позже, через 5 лет. Есть случаи смерти от рака детей в возрасте до двух лет. О детях Могилевской области никто не заботится, их даже не вывозят на лето из пораженной зоны, Все они ослаблены. Заботу о белорус-

ских детях решил взять на себя Белорусский Народный Фронт, но власти преследуют его представителей, чинят препятствия.

То, что делается властями по ликвидации последствий Чернобыльской аварии – профанация. Одна пятая часть всех пахотных земель Белоруссии заражена настолько, что непригодна к использованию. Однако их обрабатывают и производят радиоактивно зараженные продукты. До сих пор у населения Белоруссии нет даже индивидуальных дозиметров, хотя вся территория Республики в разной степени заражена. На запросы населения власти дают успокаивающие, неполные и неточные ответы. Честные специалисты бьют тревогу. Позиция руководства Республики в отношении к народной радиоактивной трагедии преступна. Чернобыльская и Могилевская трагедии – продолжение геноцида. Это сознательное планирование вымирания нашего народа, его вырождения и деградации, подрыва здоровья и генетического фонда. И в культурно-национальном и в физическом смысле белорусский народ поставлен на грань уничтожения. Преследованию подвергались даже попытки населения отметить общественными акциями скорби третью годовщину своей национальной трагедии.

В городе Бобруйске милицией избиты участники траурной акции по Чернобылю. В Минске преследуются участники "Гадзіны смутку". Как и чем это обьяснить? Народу Белоруссии нужна помощь. Ни республиканская власть, ни власти СССР не в состоянии обеспечить эту помощь, они не хотят этого; им безразлична судьба народа, попавшего в беду. Необходимо медицинское содействие и общественно-политическая поддержка.

*********************************

Аркадзь Будзіч

## Нацыянальны нігілізм і рускі шавінізм

"Магутныя бюракраты
Уласным сьцьверджаньням рады:
'Гаворыш паруску –
Інтэрнацыяналіст,
Гаворыш набеларуску –
Нацыяналіст'...".
/Пімен Панчанка/

У друку савецкай Беларусі часта ўжываюцца цяпер выразы: "нацыянальны нігілізм", нацыянальны нігіліст". Што гэта за зьява і што гэта за людзі – "нацыянальныя нігілісты"? Пытаньне гэтае, на жаль, поўнаму аналізу ў друку не паддаецца, публічнасьць да яго яшчэ не дайшла. А пытаньне гэтае – адно з ключавых для належнага разуменьня Беларускае Трагедыі.

Нацыянальны нігілізм – гэта адмаўленьне традыцыйных культурных вартасьцяў: мовы, традыцыў, гісторыі як веды мінуўшчыны свайго народу. Але калі чалавек адмаўляецца ад аднае мовы, дык не па-



тое, каб хадзіць нямым – ён сваю мову мяняе на другую, а пры гэтым, каб супакоіць сумленьне, найчасьцей і суседа свайго змушае да такога самага кроку. Нігілізм тут – гэта ня толькі адмаўленьне але й прыйманьне. Нацыянальны нігілізм на Беларусі – гэта працэс падмены аднаго комплексу культуры другім: беларускага – рускім /расейскім/.

Працэс гэты пачынаецца падменаю мовы, але на мове не канчаецца: ён цягне за сабой пераймальне традыцыяў, эстэтычных і маральных вартасьцяў, сьветагляду, а ў канчальным выніку /тое, чаго хоча паняволькік/ – палітычных пагляда ў і пераканаьняў. Падмена мовы – гэта адно пачатак.

Існасьць і мэханізм гэтае культурна-палітычнае мэтамарфозы добра разумеў яшчэ Кастусь Каліноўскі, I25-я ўгодкі пакараньня сьмерцяй якога былі нясьмела адзначаныя летась у Беларусі і ў Вільні. У 4-м нумары свае падпольнае газэты "Мужыцкая Праўда" Каліноўскі пісаў: "У нас,Дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці памаскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабілі на маскаля". Праблема аднак у тым, што, калі Беларус /"тутэйшы"/ пераймае расейшчыну і поўкасьцяй адракаецца свайго /у Гальляша Леўчыка ёсьць на гэтую таму добры верш:"Хто адрокся сваіх і цураецца нас отаў..."/, дык у яго часта застаецца адчуваньне здрады свайму народу, у яго неспакойная душа, нячыстае сумленьне, бо-ж ён жыве далей у беларускім навакольлі, якое так ці інакш нагадвае яму пра ягоную няверласьць дзядом-прадзедам. І ў яго зараджаецца ненавісьць да гэтага напаміну, ён узьненавіджвае носьбітаў беларускасьці. З асяродзьдзя гэткіх людзей часта выходзяць найбольш заўзятыя русыфікатары /і паляніізатары/, беларусафобы і беларусаеды. Гэткіх поўна цяпер па міністэрствах і розных установах ды канторах БССР.

Зянон Пазьняк сказаў у інтэрв'ю латыскай газэце "Советская молодежь" /20 IУ 89/:

> "У кіраўніцтве рэспублікі /БССР/ знаходзяцца людзі, якія фактычна ненавідзяць народ, уласную мову, адмаўляюць нацыянальную культуру, гісторыю. Пры чым гэтая папуляцыя кіраўнікоў да гэтага часу захавалася ў някранутым выглядзе".

Паколькі адмаўленьне культуры, мовы, гісторыі роднага краю вядзе ў савецкай Беларусі да пераймальня рускае культуры й палітычнае праграмы, дык нацыянальны нігілізм на Беларусі трэба называць таксама і рускім нацыяналізмам – фактычна, рускім шавінізмам, бо руская культура тут бярэ верх коштам існаваньня культуры беларускае. Мы з удзячнасьцяй адзначаем факт, што некаторыя Расейцы і ў Менску і ў Маскве бачаць гэты гвалт і выказваюцца ў абароне права Беларусаў на сваё месца пад сонцам. Але гэта адзінкавыя галасы, індывідуальныя спробы прыцягнуць увагу да жудаснае несправядлівасьці. Палітычных плятформаў з расейскага боку ў абарону паняволенае Беларусі тымчасам яшчэ не відаць. І сёньня ў Беларускай ССР мы бачым ня двухмоўе, а плянава праводжаную згары палітыку этнацыду. Усё, што "перабудова" тымчасам дала Беларусам, гэта – права пратэставаць афіцыйна і ў некаторых выпадках бяскарна супраць гэтага этнацыду.

Савецкая цэнзура, а за ёю і агульны словаўжытак замацавалі ў сучаснай публіцыстыцы штампы: "беларускі нацыяналіст" і "нацыя-

нальны нігіліст". Калі Беларус намагаецца ўсюды ў публічных месцах ужываць сваю родную мову /як гэта яму гарантавана канстытуцыяй/, яго абзываюць "нацыяналістам", "экстрэмістам" /тэрміналёгія гэтая ўжываецца ня толькі гэткімі рэакцыйнымі публікацыямі як "Вячэрні Мінск", але й партапаратам найвышэйшага ўзроўню ў нутраных інструкцыях. Калі-ж другі Беларус усюды ўжывае толькі расейскую мову/не прызнаючы свае роднае/, яго завуць "нацыянальным нігілістам". А ў запраўднасьці ён ня гэтулькі нацыянальны нігіліст /паняцьце пазначанае пасыўнасьцяй/, колькі расейскі шавініст /паняцьце актывісцкае/, бо ён ня толькі вызбыўся свае нацыянальнае мовы й традыцыяў, а й іншым субратом вельмі часта адмаўляе права на іх.

Але расейскі нацыяналізм-шавінізм на Беларусі - ня так як беларускі нацыяналізм-экстрэмізм - дасюль не паддаваўся ані аналізу ані нават згадкам пра ягонае існаваньне. Вельмі рэдка таксама сустракаецца і слова "русыфікацыя" ў дачыненьні да сучаснае Беларусі, хоць пра "беларусізацыю" /фактычна, дэрусыфікацыю/пішацца даволі шмат.

Пазнаваньне ісьціны, устанаўляньне праўды вымагае перш-наперш адпаведнае тэрміналёгіі. Чым паўнейшы тэрміналягічны арсэнал, тым дакладней можна прааналізаваць і высьвятліць тую ці іншую зьяву. Гэта як з фарбамі для мастака - чым багацейшая палітра, тым дакладнейшае адлюстраваньне бачанага сьвету, задумы. Але тэрміналёгія культурна-палітычнага аналізу ў сучаснай Беларусі сьведама абмежаваная цэнзурай, мова яшчэ ня вызвалілася поўнасьцяй ад афіцыйнае палітыкі, пэўныя тэрміны, што характарызуюць зьяву, не набылі яшчэ правоў грамадзянства. У выніку абмежаванасьці аналізу, недагаворанасьці да канца, у беларускім грамадзтве пашыранае неразуменьне таго, <u>што</u> ёсьць <u>што</u> і <u>хто</u> ёсьць <u>хто</u>. У шуканьні шляхоў да ўздыму Беларусі з нацыянальна-культурнае дэградацыі перш-наперш павінен быць выкрыты ўвесь складаны мэханізм культурна-псыхалягічнага й нацыянальна-палітычнага заняволеньня Беларускага народу: трэба гаварыць ня толькі аб тым, <u>што</u> адкідаецца /нігілізм/, але й аб тым, <u>што</u> прыймаецца /русыфікацыя; памятайма Кастуся Каліноўскага зь пятлёю на шыі!/, <u>як</u> прыймаецца ды ці робіцца ўсё гэта ў згодзе з прынцыпамі справядлівасьці й добрасуседзкага сужыцьця двух родасных народаў.

<u>Заўвага Аўтара</u>: Я ўжываю сьведама ўперамешку словы "рускі" і "расейскі". На добры лад, беларуская мова павінна была-б карыстацца выключна словам "расейскі" там, дзе сёньня ўжываецца слова "рускі". Паколькі "рускі" фігуруе ў гэткіх тэрмінах як "бела<u>рускі</u>", старажытна<u>рускі</u>" і "<u>рускі" ў сэнсе беларускі</u> /за часамі Францішка Скарыны й Вялікага Княства Літоўскага/, дык некаторыя нясумленныя /а бываюць і нясьведамыя/ сучасныя аўтары займаюцца абкраданьнем беларускае мінуўшчыны, запісваючы на рахунак Маскоўшчыны / сучаснае Расеі/ тое, што было і ёсьць беларускім. Але гэта - тэма для асобнага артыкулу.

------------------------------------



А.А.

## <u>Што здарылася ў Беластоцкім Краі?</u>

Калі я пісаў "Замест агляду друку", змешчаны ў першым нумары "Кантакту", думалася пра адно: у наступны раз павінна быць больш матэрыялу для вопісу, тэматычна не так манатоннага. Але за мінулае ўсяго паўгоддзе здарылася столькі, аб чым нават і не снілася! Вось нагода, каб не лішні раз задумацца над зменлівасцю лёсу, які абясцэньвае здавалася б бясцэннае і ўзвышае прыніжанае. Паводзіць сябе, быццам бог усіх багоў, бязлітасна справядлівы, без аніякае паблажкі ні ў чым...

У польскім друку - афіцыйным і неафіцыйным - сапраўды з'явілася нямала публікацыяў на беларускія тэмы. Прагладаючы іх цяпер, з далечыні перспектывы, відаць выразны падзел на тры перыяды.

У першы - сыпаліся на старонкі варшаўскіх, кракаўскіх ці люблінскіх газет ды часопісаў тэксты пра беларусаў і Беларусь,напісаныя ў старасвецкім тоне, якія не варта і пералічваць. Ажно дзіва бярэ, як глыбока засела ў польскую псіхіку разуменне нас у катэгорыях XIX стагоддзя; погляд сентыментальнага пана на пачцівага халопа. Беларусь такому паляку - гэта нешта накшталт індзейскага запаведніка амерыканцу: абарыгенскі фальклор, варварская прастадушнасць, вегетацыя на абочынах цывілізацыі. Краіна Добрых Людзей якую крыўдзяць, каму толькі здумаецца, і шкада, што прападае яна ў вірлівы век прагрэсу... Аднак цікава будзе заўважыць, што з такімі ўражаннямі вярталіся ў Варшаву рэпартажысты, якія даволі тлумна ўжо наведваюць Беларускую ССР. Чаму? - ставіў я сабе пытанне. Адкуль у іх такія анахранізмы? - пабывалі ж яны не ў нейкай афрыканскай рэспубліцы! Праўда заўсёды простая, на мяжы банальну. І паўстала яна перада мною, таксама, ва ўсёй сваёй яснасці: Беларуская ССР не ёсць беларускай дзяржавай. Польскі журналіст, які прыязджае ў гэтую рэспубліку, адчувае сябе не болей, як "далеко от Москвы". Як у індустрыялізаваным генерал-губернатарстве,у якім, каб пагутарыць з натуральным беларусам, трэба яго марудліва пашукаць. Натыкаецца ў мільённым Мінску на "тоже-белорусов",з якімі аніяк ён"Ѓпагаворыць пра Беларусь, бо яна ім адміністратыўна--геаграфічнае паняцце. Яны не нацыя і не народ, а насельніцтва, от тутэйшыя /"здешние"/ без духоўных каранёў і чуцця айчыны.Таму мус выбрацца ў раённую глухамань, дзе дымяць галавешкі ад беларускай мовы і культуры, жыве той дробны працэнт "калхознікаў", якія не размаўляюць па-руску і ніхто іх дзеля гэтага не прымушаў, як не прымушаюць вучыцца чытаць-пісаць старуткіх бабуляў з дзядулямі.

Вясковa-местачковая Беларусь, на глебе якой узбуяла ідэя беларускай нацыі, падпала пад цывілізацыйную нівеліроўку вялікарускай імперскай палітыкі. Змарнела да маргінальнай нацыянальнай меншасці ва ўласнай рэспубліцы. Аналогія з сітуацыяй беларускага насельніцтва ў Беластоцкім Краі відавочная, хоць прычыны яе супрацьстаўныя /нас тут не пераўтварылі з большасці ў меншасць, мы ёю - - звычайна - былі ад пачатку сучаснай Польшчы/. Нам дакладна абрыдла чытаць пра сябе ў польскім друку, як пра энклаў таго свету, у якім захаваліся пакуль што нейкія формы жыцця родам ад даўно вымерлых дыназаўраў...

Віленчук

## Віленшчына - вяртанне да традыцыі

Вільня -гістарычная сталіца літоўска-беларускай дзяржавы, Вялікага княства Літоўскага. Тут сфарміравалася старажытнабеларуская літаратурная мова, выдаваліся кнігі Скарыны, Літоўскі статут, хронікі, разнастайная рэлігійная літаратура. Тут дзейнічаў Каліноўскі жылі і працавалі дзеячы беларускага адраджэння. Пасля ганебнага падзелу Беларусі ў Рызе /I920 г./, Вільня была цэнтрам грамадска-палітычнага жыцця заходняй Беларусі. Немалое значэнне захоўвала Вільня і ў часе апошняй нямецкай акупацыі: аднавіў сваю дзейнасць закрыты польскімі ўладамі Беларускі Нацыянальны Камітэт, працавала беларуская гімназія і настаўніцкая семінарыя, дзейнічаў музей імя Івана Луцкевіча, адбываліся праваслаўныя і каталіцкія багаслужбы, даклады і канцэрты, выдаваўся тыднёвік "Беларускі Голас".

Пасля вайны і аднаўлення савецкай улады ў Літве ўсё беларускае грамадскае жыццё на Віленшчыне было ліквідавана, а многія дзеячы зніючаныя ў савецкіх турмах і лагерах. Гэтыя дзеянні, як правіла, выходзілі з прынцыпаў сталінскай нацыянальнай палітыкі, згодна з якой у саюзных рэспубліках дапускаліся да грамадскага ўжытку толькі нацыянальная і расейская мовы. Культурныя і моўныя патрэбы нацыянальных меншасцей ігнараваліся.

Аднак у Літве ў гэтых адносінах стварылася спецыфічнае становішча. Паводле распаўсюджаных тут чутак, на просьбу Баляслава Берута, на пачатку 50-х гадоў Масква "рэкамендавала" уладам рэспублікі ўлічыць патрэбы польскага насельніцтва. Перад урадам Літоўскай ССР паўстала пытанне, якіх жыхароў рэспублікі лічыць палякамі? Як вядома, на Віленшчыне жыло аўтахтоннае славянскае ці славянізаванае насельніцтва, пераважна каталіцкага веравызнання, якое . майчасцей, асабліва па вёсках, карысталася беларускай мовай, аднак лічыла сябе часткова "тутэйшымі", часткова беларусамі, або атоесамліваючы "польскую веру" з нацыянальнасцю, палякамі.

Гэтае складанае пытанне, як правіла, вырашалася не насельніцтвам, але тагачаснымі ўладамі ЛітССР, якія лічылі, што скіраванне "тутэйшых" у польскае русло прынясе менш шкоды інтарэсам Літвы,чым прывіццё ім беларускай нацыянальнай свядомасці. Думалася прыкладна так: калі з'явіцца ва Ўсходняй Літве свядомае беларускае насельніцтва, то ў будучыні можа ўзнікнуць пагроза карэктуры граніцы з Беларускай ССР, тады як польскім яно само па сабе не стане, у сувязі з чым не будуць небяспечнымі ўплывы і прэтэнзіі Польшчы, ад якой, дарэчы, "ахоўвала" Літву не толькі шчыльная савецкая граніца, але і паслушны Маскве сатэліцкі рэжым у Варшаве. У выніку, на пачатку 50-х гадоў было ўладамі адкрыта звыш 300 польскіх школ, нават у такіх вёсках, у якіх пад час нямецкай акупацыі былі беларускія школы. Адначасова з I953 г. быў арганізаваны выпуск рэспубліканскіх і раённых польскамоўных газет і часопісаў, радыёперадачы, гурткі мастацкай самадзейнасці і г.д.

Усё гэта спрыяла паланізацыі "тутэйшых", аднак яе вынікі былі вельмі сціплымі, што наогул пацвярджала прагнозы улад Літоўскай рэспублікі. З году ў год змяншалася колькасць польскіх школ, якія ў большасці ператварыліся ў двухмоўныя - польска-расейскія. На такі працэс уплываў абмежаваны грамадскі прэстыж польскай мовы, які няшмат адрозніваўся ад прэстыжу напр. беларускай мовы ў БССР ці на Беласточчыне.



У апошні час польскае пытанне ў Літве стала прадметам асаблівай палітычнай гульні ў кантэксце пашырэння літоўскага руху нацыянальнага адраджэння, згодна з адвечным прынцыпам: "вораг майго ворага - маім саюзнікам". У выніку стварылася парадаксальная сітуацыя: у Польшчы літоўскіх палякаў падтрымоўвае антыкамуністычная апазіцыя, а ў Літве - КДБ і расейскія камуністы, якія спадзяюцца выкарыстаць польскі рух як пажаданую процівагу нацыянальным імкненням літоўцаў.Такім чынам на Віленшчыне хутка аднавіўся дзікі польска-літоўскі канфлікт, які пераканаў літоўскія ўлады і грамадскіх дзеячаў, што стаўка на паланізацыю "тутэйшых" была памылковай.

У такіх складаных умовах летам I988 г. на літоўскай палітычнай сцэне з'явіўся беларускі клуб "Сябрына", якога кіраўнікі пачалі рыхтаваць грунт для адраджэння беларускага грамадска-культурнага жыцця ў гэтай рэспубліцы. I5 снежня I988 г. дзеячы "Сябрыны" спаткаліся з прадстаўнікамі літоўскага таварыства "Вільнія", якое дзейнічае пры рэспубліканскім Фондзе культуры. У выніку гэтага спаткання абедзве арганізацыі апрацавалі і апублікавалі ў прэсе сумесную дэкларацыю "Адродзім беларускую культуру", у якой былі сфармуляваны наступныя патрэбы беларускага насельніцтва ў Літве:

- арганізацыя беларускіх школ і дашкольных установ,
- доступ да сродкаў масавай інфармацыі /беларускі прэсавы орган, радыёперадачы, тэлевізійныя праграмы/,
- стварэнне Таварыства беларускай культуры пры літоўскім Фондзе культуры /гл. "Вечерние Новости", I2 I I989/.

Неўзабаве, 4 лютага I989 г., адбыўся ў Вільні ўстаноўчы з'езд Таварыства беларускай культуры /ТБК/. Галоўныя мэты ТБК - актывізацыя нацыянальнага жыцця літоўскіх беларусаў, папулярызацыя і развіццё беларускай мовы і культурных традыцый, дапамога беларусам у вывучэнні літоўскай мовы. У планах работы ТБК на бліжэйшую будучыню - стварэнне беларускай бібліятэкі-чытальні, лекторыя па пытаннях беларускай культуры, а ў перспектыве - адраджэнне Беларускага музея, школьніцтва і кафедры ў Віленскім універсітэце. Была атрымана прынцыповая згода літоўскіх улад на выпуск прэсавага органа ТБК. Таварыства спадзяецца знайсці сталы прытулак у старажытных мурах былога базыльянскага манастыра, які быў некалі адным з цэнтраў беларускай культуры ў Вільні.

Ці і наколькі магчымае адраджэнне беларускага грамадска-культурнага жыцця ва Ўсходняй Літве? Традыцыі традыцыямі, аднак 45 пасляваенных "мёртвых" гадоў зрабілі сваё і сёння інтэлектуальны патэнцыял ТБК даволі скромны. Праўда, многія важныя праблемы, такія як аднаўленне музея, бібліятэкі ці ўніверсітэцкай кафедры, выпуск часопіса і т.п. могуць быць вырашаны з дапамогай улад рэспублікі, аднак гэтага яшчэ мала для стварэння аўтэнтычнага грамадскага руху ў беларускамоўных вёсках Віленшчыны, на чым Таварыству таксама залежыць. Тым часам насельніцтва гэтых вёсак "ахоўваюць" ад беларускай свядомасці польскія ксяндзы і польскія дзеячы. Ці хопіць актывістам ТБК жадання і сіл, каб пераадолець гэтыя цяжкасці?

У гэтых адносінах многае залежыць ад зацікаўлення літоўскіх улад перспектывай беларускага руху. Пакуль што гэтаму зацікаўленню

Наш фельетон

Некий Некто

ДЗЯДЫ или репортаж о том, как некоторая часть минчан, сбитых с толку безответственными элементами из обществ "Мартиролог", "Толока" и др., дерзнула без позволения начальства провести день поминовения усопших и убиенных и что из этого получилось.

/устами махрового бюрократа/

Недавно, 30 X 1988 г., наша доблестная милиция по повелению отцов и благодетелей града Минска и всея Белыя Руси провела по всем правилам военного искусства блестящую операцию по усмирению злейших врагов нашего общественного порядка, безответственных демагогов – митингеров, требовавших поименного оглашения и предания суду наравне с военными преступниками вдохновителей,организаторов и исполнителей целительных сталинских кровопусканий и их бдительных помощников-осведомителей, т.е. тех ревностных слуг отечества, коих "вырастил Сталин на верность народу, на труд и на подвиги их вдохновил". Эти зловредные безумцы-митингеры,презрев многотрудные дела нашего начальства и его неусыпные заботы о благе своих подданных, договорились до невиданного и неслыханного непотребства - до создания народного фронта Белоруссии! И к сему предосудительному деянию они призывали минчан на своем запрещенном властями возмутительном сборище, именуемом митингом.

Но они забыли – и об этом пришлось им напомнить! о существовании нашей народной милиции, наследнице славных традиций 30-х годов, способной осуществлять широкомасштабные операции по обезвреживанию врагов народа и имеющей высочайше нравственно-политические и оперативно-тактические качества, в которых злоумышленникам пришлось еще раз убедиться на собственном опыте.

Описанной ниже операции, военному таланту ее организаторов и доблести ее исполнителей, а также гражданской совести властей, благословивших витязей в серых шинелях на ратный подвиг, благодарные подданные, несомненно, рано или поздно воздадут должное.

Не претендуя на полноту и точность информации – это дело будущих историков – и сознавая малость своих познаний в военном деле, попытаюсь все же описать тактические приемы, мастерски примененные нашей милицией в сей памятный день.

I. Диверсии на комуникациях противника с целью недопущения своевременного сосредоточения его сил. На направлении к месту митинга маршрут поездов метро был сокращен, а движение городского транспорта /дез/организовано с таким расчетом, чтобы подавляющее большинство митингеров смогло прибыть к месту сбора с опозданием на 40-50 минут и, упершись в плотные милицейские шеренги и кордоны, решило разойтись подобру-поздорову, ибо не каждый отважится проверить на собственной шкуре, как "моя милиция меня бережет".



2. Обеспечение подавляющего превосходства над противником в технике и живой силе на направлении главных ударов. Наша милиция продемонстрировала грозную мощь целой колонной заполненных воителями правопорядка многоместных автобусов, лазиков и легковых машин, машин наподобие пожарных /по-видимому, водометных/, крытых машин, с решетчатыми окнами и без оных, машин с красным крестом и т.д.

3. Расчленение войска противника с целью последующего разгрома его по частям. Предводители митингеров и ораторы оказались прижатыми к ограде Московского кладбища плотным строем синих шинелей, отделявшим их от основной массы злоумышленников, которая в свою очередь тоже была столь же искусно разрезана надвое еще более мощной ударной колонной и блокирована со стороны дороги милицейскими машинами и автобусами.

4. Маневр. Сия баталия была не позиционной, а маневренной. Предъявленный инсургентам ультиматум о добровольной сдаче позиций и роспуске своих сил остался без ответа, если не считать ответом крики "Вандея!" и "Даешь народный фронт!". Дабы избежать полного окружения и поражения, "не обнажив мечей" /то есть не сказав речей/, мятежники по указанию своих предводителей двинулись параллельно линии фронта, используя в качестве рокады коридор между шеренгами противника и брешь в боевых порядках его правого фланга,в общем направлении на Куропаты.

В ответ на этот маневр мятежников наша славная милиция оперативно погрузилась на машины и, "сверкая блеском стали", мощной колонной двинулась по шоссе к новому месту дислокации противника, с насмешкой глядя на бредущих по обочине дороги злоумышленников.

Воспользовавшись тем, что автомобили не могут прыгать через овраги и карабкаться по крутизне – а вертолеты против мятежников почему-то не были использованы – инсургенты, резко изменив маршрут, кратчайшим путем, опередив противника, вышли на опушку леса в Куропатах и остатком своих сил несколько тысяч человек заняли позицию, не весьма выгодную в оперативно-тактическом отношении: с запада лес, с севера и востока – крутой обрыв; с юга – пологий склон.

5. Психологическое воздействие на противника. Несомненно, численность и грозная техническая мощь нашей славной милиции устрашающе действовали на инсургентов, и потому значительная часть их дезертировала еще на марше от кладбища к Куропатам. Но предводители мятежников значительно ослабили это воздействие таким выбором нового места дислокации инсургентов, которое повышало их нервный тонус напоминанием о 200-х или 300-х тысячах врагов народа расстрелянных в Куропатах при Сталине.

6. Борьба со службой информации и связи противника, дабы нарушить работу его штаба и взаимодействие между различными подразделениями его войска. Было сделано все возможное для того, чтобы инсургенты не смогли воспользоваться микрофонами и динамиками, а также фотоаппаратами и прочими средствами фиксации событий, вследствие чего их предводители и ораторы могли рассчитывать только на мощь своих легких и голосовых связок. Но политическое сознание этих безответственных нигилистов оказалось столь низким, а их упрямство и

дерзость столь высокими, что даже в этих условиях они начали митинг. Успели выступить только три оратора с общей декларацией и предложениями по созданию и функциям народного фронта и по программе общества "Мартиролог" да еще с крамольными виршами. Смысл сих возмутительных воззваний указан в самом начале репортажа.

7.Вторичное расчленение войска инсургентов и превращение его в "слоенный пирог" /слой бунтовщиков - слой милиции/, окруженный плотным кольцом серых шинелей. Пока мятежники митинговали, предаваясь надеждам на гласность, демократию и перестройку, бравые молодцы в серых шинелях, гулко чеканя шаг, окружили центральную часть митингеров вместе с их предводителями и ораторами двумя плотными кольцами, из которых одно было обращено фронтом к "трибуне" а другое - в противоположную сторону.

Точно так же еще более мощными ударными клиньями в колонну по четыре была рассечена на концентрические круги и взята в плотное окружение почти вся остальная масса инсургентов. Избежать окружения удалось лишь тем относительно немногим, которые благоразумно и заблаговременно, не дожидаясь боевых действий, отошли от основной массы митингеров и от милиции на весьма почтительную дистанцию. Все пути отхода инсургентам были отрезаны тем более надежно, что шоссе было блокировано мощным моторизованным резервом,т.е вышеуказанной техникой с надлежащим обеспечением, а численность нашей славной милиции была вполне достаточной не только для разгрома мятежников, но и для надежной блокировки близлежащих остановок городского транспорта и даже для преследования по пути к ним разрозненных групп инсургентов.

8. Одновременный и согласованный удар по всем направлениям, разгром и преследование бегущего противника.

Справедливо усматривая смертельную угрозу нашему общественному порядку и безопасности самой милиции в том, что дерзкие юнцы и девочки хором скандировали "Вандея!" и "Нардный фронт!", наши витязи правопорядка преисполнились отваги и решимости и не ударили в грязь лицом, как только последовала команда показать зарвавшимся злоумышленникам кузькину мать. Оратор был прерван на полуслове, тут же послышались истошные вопли, визг женщин и крики: "Что ж вы творите, изверги!". Толпа инсургентов смешалась, забурлила и получив мощное ускорение от благодатных пинков и дубинок, хлынула вниз по склону холма, конвоируемая изнутри и снаружи.

Трудно сказать, сколько было арестованных, то бишь, задержанных, но, судя по численности и оснащению милиции, количество их исчисляется десятками. Гуманизм и благовоспитанность нашей милиции широко известны и в последние два года неоднократно освещались в нашей печати. Правда, наша белорусская милиция по этой части несколько уступает узбекской, но тем не менее, можно предположить, что в отделениях милиции с задержанными обращались не менее галантно, чем на месте митинга. К особой же галантности должно было располагать то обстоятельство, что среди инсургентов и, вероятно, среди задержанных тоже, было много девушек.

На следующий после этой славной операции день преставители властей и милиции по телевидению и печати доложили народу о том, что милиция успешно защитила его покой от кучки демагогов и подстрекателей, и заверили народ, что он может быть спокоен, ибо



власти "и впредь не намерены пускать проведение митингов на самотек" и не допустят превращения их в анархию. Из этого заверения властей народ понял, что ему милостиво позволено просить у начальства разрешения на проведение митинга, что таковое разрешение будет даровано, а митингующие получат в свое распоряжение площади и залы, радио- и телеканалы при условии, что они будут достаточно сознательны, законопослушны и патриотичны, чтобы митинговать во славу и в поддержку начальства. В противном же случае им отечески вправят мозги с помощью палаты № 6, хороброй дружинушки в серых шинелях и того самого заведения, клиенты которого все делают сидя.

Правильность такого понимания потверждается сообщениями в нашей печати и по ЦТ о формировании специальных подразделений милиции и войск МВД для обеспечения порядка на митингах и о том, что такие подразделения нам необходимы, как воздух, в связи с низким уровнем общей и политической культуры нашей публики, в том числе и культуры митингования. Что по части культуры наша публика,и особенно интеллигенция, отстает от Запада - это факт. А посему, ежели на трибуну митинга поднимется какой-нибудь студентишка или доцентишка, то для порядка надобно, чтобы он имел перед глазами простой и понятный эталон, образец, благовоспитанности, культуры и демократии. В качестве такого образца совершенно естественно предложить милицейского капитана, а еще лучше прапорщика или старшину который, руководствуясь многомудрыми инструкциями начальства, будет в каждом отдельном случае вполне компетентно судить, что культурно, а что - нет, и вполне квалифицированно наводить демократический порядок и культуру. Правда, по ЦТ иногда говорится о том, что нашей милиции тоже следует подучиться кой-чему по части наведения порядка и культуры. В этой связи описанную выше операцию минской милиции следует оценивать как великий пионерский почин в деле такой учебы.

Глубоко символичен тот факт, что сборище митингеров,этих нынешних врагов народа, было разгромлено в тех самых Куропатах, где по воле отца народов расстреливали их предков.

Проведенная минской милицией операция по разгону инсургентов -митингеров займет достойное место в анналах нашей истории как поучительная репетиция возрождения славных традиций 30-х годов.

Слався, отечество наше свободное! Я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек!

---

> Палітыка ніколі не была філасофскай дыскусіяй. Істота палітыкі - змаганне акрэсленых інтарэсаў і сіл, а не навуковая спрэчка паміж прыхільнікамі разнастайных поглядаў.
>
> Беларусы, дзе наш інтарэс, дзе наша сіла?

# Г І С Т О Р Ы Я

Юры Туронак

## Нежаданая рэспубліка

На працягу стагоддзяў расейскі імперыялізм імкнуўся авалодаць Беларуссю і Украінай, без якіх немагчымай была яго актыўная палітыка ў Эўропе. Пасля падзелаў Рэчыпаспалітай, асабліва пасля паўстанняў I83I і I863 гг., пачалася планавая русіфікацыя Беларусі, якая павінна была ўвекавечыць панаванне Расеі ў гэтай краіне. Афіцыйна не прызнавалася беларуская нацыя і мова, што абумовіла забарону друку - гэтай перадумовы нацыянальнай свядомасці. Аднак у I904-I906 гадах, у выніку прайгранай вайны з Японіяй і рэвалюцыі,царызм быў вымушаны лібералізаваць сваю ўнутраную палітыку. І хаця надалей не прызнавалася беларуская нацыя і мова, усё ж былі адмененыя абмежаванні выдавецкай і культурнай дзейнасці, што спрыяла росту нацыянальнай свядомасці.

Гэтыя магчымасці паспяхова выкарысталі дзеячы маладога беларускага нацыянальнага руху, які, нягледзячы на розныя яго недастаткі, напярэдадні першай сусветнай вайны быў ужо заўважальным грамадскім фактарам. Невыпадкова да першай сусветнай вайны асноўным напрамкам беларускай палітычнай думкі была арыентацыя на аўтаномію Беларусі ў саставе дэмакратычнай Расеі.

У выніку ваенных падзей, у верасні I9I5 г. Беларусь была падзелена: прыкладна 25% яе тэрыторыі акупіравалі немцы, а другая, значна большая яе частка заставалася пад уладай Расеі. На абшары сваёй акупацыі Нямеччына, як першая вялікая дзяржава, хутка прызнала асобнасць беларускай нацыі і мовы, што стварыла падставу для развіцця беларускага школьніцтва, выдавецкай дзейнасці і іншых галін грамадскага і культурнага жыцця. На ўсходніх абшарах Беларусі падобныя магчымасці ўзніклі ў I9I7 г., пасля Лютаўскай рэвалюцыі. У сакавіку паўстае ў Менску Беларускі Нацыянальны Камітэт, у ліпені яго змяняе больш радыкальная Рада беларускіх партый і арганізацый, якая ў кастрычніку рэарганізуецца ў Вялікую Беларускую Раду, як прэтэндэнта да вярхоўнага нацыянальнага прадстаўніцтва.

Аднак, нягледзячы на дэклараваныя Лютаўскай рэвалюцыяй свабоды, мэты і дзейнасць Рады ігнараваліся петраградскім Тымчасовым урадам, які надалей стаяў на варце інтарэсаў "адзінай і непадзельнай" Расеі. Яго прэм'ер, А. Керанскі, у адказ на прадстаўлены Радай пастулат аўтаноміі Беларусі, заявіў: "Россия - не этнографический музей!".

### Першы Ўсебеларускі з'езд

Таму Вялікая Беларуская Рада спадзявалася, што ў данай палітычнай сітуацыі больш рэальнай прадпасылкай вырашэння пытання беларускай дзяржаўнасці з'яўляецца нацыянальная праграма Леніна /самавызначэнне аж да аддзялення/. Неўзабаве пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, у палове лістапада I9I7 г., Рада выступіла з пастулатам заключыць мір з Нямеччынай, аб'яднаць акупіраваныя немцамі заходнебеларускія абшары і стварыць Беларускую дэмакратычную рэспубліку, як састаўную частку савецкай Расеі. Такім чынам Рада не выказвала сепаратыстычных дзеянняў, у чым яе вінавацяць беларускія савецкія гісторыкі.



У гэтых адносінах асаблівую цікавасць прадстаўляе Ўсебеларускі з'езд, які быў скліканы Вялікай Беларускай Радай і эсэраўскім Беларускім Абласным Камітэтам у снежні I9I7 г. у Менску. З'езд не закончыў сваёй работы і быў разагнаны салдатамі на падставе рашэння старшыні Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці К.Ландера. Гэтая акалічнасць абумовіла наступны, нібыта лагічны, тэзіс усходніх і заходніх вучоных: калі з'езд быў разагнаны бальшавікамі, то гэта значыць, што ён быў антысавецкі, антыбальшавіцкі, з чаго ўжо просты вывад аб яго буржуазных, сепаратыстычных і незалежніцкіх імкненнях.

Усё ж гэты тэзіс часам даводзілася абгрунтоўваць, з чым "сумленныя" даследчыкі спраўляліся лёгка і даволі паспяхова.Вось прыклад з заходняга боку: У зборніку дакументаў "За дзяржаўную незалежнасць Беларусі" /Лондан I960/, адрэдагаваным Радаславам Астроўскім /дарэчы, удзельнікам з'езда/, прыводзіцца тэкст прынятага дэлегатамі першага пункта рэзалюцыі з'езда, як наступае:

> "I.Замацоўваючы свае права на самавызначэнне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і зацвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай Зямлі, для ўратавання роднага краю і захавання яго ад падзелу, I-шы Ўсебеларускі Кангрэс пастанаўляе безадкладна ўтварыць із свайго складу орган краёвае ўлады, які часова становіцца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай".

Так прадстаўлены тэкст рэзалюцыі павінен выклікаць уражанне, што з'езд меў незалежніцкі і сепаратыстычны характар, што на добры лад, павінна апраўдаць рашэнне Ландера, як праціўніка незалежнай Беларусі.

А цяпер прыклад з усходняга боку. Вадзім Круталевіч у сваёй кніжцы "Рождение Белорусской Советской Республики" /Менск I975,с. I34/ так прадстаўляе цытаваную рэзалюцыю: "... съезд принял резолюцию о создании органа краевой власти "в лице Всебелорусского Совета крестьянских,рабочих и солдатских депутатов" и "республиканского строя". Краевому совету должна была перейти власть в Белоруссии. Такое решение означало непризнание существующей Советской власти в Западной области. И не только непризнание, но и узурпацию власти. Этим решением съезд противопоставил себя Октябрьской революции.". Дык жа, паводле Круталевіча, інакш і быць не магло, пакольні "на съезде господствовали мелкобуржуазные партии,не признававшие новой власти" /с. I28/.

Перш чым выкажам свае заўвагі, прапануем цярплівому чытачу поўны тэкст прынятага з'ездам першага пункта рэзалюцыі з падкрэсленымі аўтарам яе элементамі, прапушчанымі Астроўскім і часткова Круталевічам:

беларускай дзяржаўнасці.

А гэтае пытанне па-ранейшаму ігнаравалася на ўсіх узроўнях савецкай улады. Восенню I918 г., калі Куршман з сімпатыяй выказваўся ў берлінскім часопісе аб нацыянальным і дзяржаўным адраджэнні Беларусі, сакратар Паўночна-заходняга абласнога камітэта РКП/б/, В.Кнорын, заявіў: "Мы считаем, что белорусы не являются нацией, и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты" /"Звезда", 6 X I918/. З гэтых пазіцый эвакуіраваныя ў лютым у Смаленск кіраўнікі Заходняй вобласці змагаліся з Белнацкомам, м.інш. ліквідавалі яго аддзелы ў Смаленску і Віцебску. Нялепш было і ў сталіцах – Петраградзе і Маскве, дзе пытанне стварэння БССР не разглядалася цэнтральнымі партыйнымі і дзяржаўнымі органамі амаль да канца I918 г. Факт, што ў гэтым часе Беларусь была пад нямецкай акупацыяй не выясняе справы да канца, паколькі гэтая акупацыя лічылася тымчасовай.

Становішча Жылуновіча было жалюгодным. Ні яго спасылкі на дэкларацыі Леніна, ні верная служба савецкай уладзе, уключна з аплёўваннем БНР, не здолелі палепшыць адносін вярхоўных органаў РСФСР да пытання беларускай савецкай дзяржаўнасці. Пасля У Усерасейскага з'езда Саветаў /ліпень I918 г./ і прыняцця канстытуцыі РСФСР, Белнацком выступае з больш памяркоўным праектам: калі ўжо немагчыма дабіцца прызнання БССР, то ці не можна было б стварыць "інтэрнацыянальную" тэрытарыяльную адзінку, шляхам пераймянавання Заходняй вобласці ў Беларуска-Літоўскую, накшталт савецкага Вялікага княства Літоўскага? Характэрная і аргументацыя Белнацкому, якая зыходзіла не з жыццёвых інтарэсаў беларускай нацыі, але з таго, што такім чынам лягчэй будзе паралізаваць дзеянні незалежнікаў, калі Чырвоная Армія будзе вяртацца на Беларусь. Аднак у верасні праект Белнацкома быў адхілены III-м з'ездам Саветаў Заходняй вобласці, пасля чаго ў кастрычніку гэтае яго рашэнне было зацверджана цэнтральнымі ўладамі РСФСР. Беларуская ці Беларуска-Літоўская Савецкая Рэспубліка нядалей была нежаданай.

Справа стварэння БССР ажыла раптоўна толькі пад канец снежня I918 г., а папярэдзіла яе здарэнне, аб значэнні якога можам меркаваць прыблізна. У палове кастрычніка, калі быў закончаны першы этап эвакуацыі нямецкай арміі з Беларусі, у Менску была паклікана новая Рада Міністраў БНР з сацыялдэмакратам Антонам Луцкевічам як яе прэм'ерам. Паколькі рыхтаваўся чарговы этап адступлення немцаў, члены новага кабінета не маглі не спадзявацца, што дні Беларускай Народнай Рэспублікі ўжо палічаны, а яе альтэрнатывай можа быць Беларуская Савецкая Рэспубліка. Паслядоўна, Рада БНР і яе ўрад лічылі на магчымасць перагавораў з урадам РСФСР, які пакуль што не быў звязаны прызнаннем альтэрнатыўнай /савецкай/ беларускай дзяржаўнасці.

Як паведаміў Вацлаў Іваноўскі – тагачасны міністр асветы БНР, у лістападзе I918 г. Луцкевіч выехаў у Маскву з мэтай прадстаўлення Леніну канцэпцыі стварэння кааліцыйнага ўрада Савецкай Беларусі у які ўваходзілі б камуністы /група Жылуновіча/ і сацыялдэмакраты-прадстаўнікі Рады БНР /"Запісы" кніга I, I962, с.I60-I62/. Можна не сумнявацца, што аўтары праекта, лічучы на яго адабрэнне, спадзяваліся запэўніць працягласць беларускай дзяржаўнасці, паскорыць прызнанне кіраўнікамі РСФСР Беларускай Савецкай Рэспублікі і яе ўрада, як легітымнага пераемніка БНР і забяспечыць перад разбурэннем здабыткі БНР у галіне нацыянальнага будаўніцтва /асвета, культура і т.п./.



Гэтая, здавалася б неpraўдападобная, місія Луцкевіча ў Маскву пакуль што пацвярджаецца толькі ягоным інтэрв'ю, апублікаваным у петраградскім "Чырвоным Шляху" /30 XI I918/, у якім аднак не згадвалася пра перагаворы з уладамі РСФСР. Нам невядома, якія былі іх вынікі. Аднак адмоўная ацэнка Луцкевіча ў "Чырвоным Шляху" і далейшы ход падзей пераконваюць, што адносіны ўлад РСФСР да канцэпцыі ўрада БНР не былі іншымі, чым да прапановы Белнацкома. Аб гэтым м.інш. сведчыць тэлеграма Леніна, высланая ў канцы лістапада галоўнакамандуючаму I. Вацэцісу:

> "С продвижением наших войск на запад и на Украину создаются областные временные Советские правительства, призванные укрепить Советы на местах. Это обстоятельство имеет и ту хорошую сторону, что отнимает возможность у шовинистов Украины, Литвы, Латвии, Эстляндии рассматривать движение наших частей, как оккупацию, и создает благоприятную атмосферу для дальнейшего продвижения наших войск" /падкр. аўтара/.

На адмоўныя адносіны кіраўнікоў РСФСР да пытання стварэння Беларускай ССР паказвае таксама ажыццяўленне цытаванага ленінскага ўказання. IO снежня немцы перадалі Менск савецкім уладам, аднак ні тады, ні ў наступныя дні не была абвешчана БССР і створаны яе ўрад. Затое ўрад Савецкай Літвы быў створаны ўжо 8 снежня ў Вільні, калі Чырвоная Армія была яшчэ далёка ад літоўскай сталіцы. Адначасова, пачынаючы з I2 снежня, савецкія органы ў Менску арганізавалі шэраг рэзалюцый, зваротаў і выказванняў аб аб'яднанні Беларусі і Літвы /гл. Круталевіч, Рождение Белорусской Советской Республики, Менск, I979, с.I2I-I22/. Уся гэтая акцыя была інспіраванай зверху /такая акцыя праводзілася і ў Літве/, а гэта дае падставу меркаваць, што для ўлад РСФСР больш прывабнай была ідэя Савецкай Літвы, у састаў якой увайшла б частка абшараў Беларусі. У такім "інтэрнацыянальным катле" беларускае нацыянальнае пытанне не прадстаўляла б непажаданай праблемы. Акрамя таго ўсходнія абшары Беларусі маглі б заставацца ў межах Расеі.

У такіх умовах прынятае ў канцы снежня рашэнне ЦК РКП/б/ аб абвяшчэнні БССР было не толькі нечаканым, але і сенсацыйным. Што ўплыло на так раптоўную і радыкальную змену палітычнага курсу ў адносінах да пытання беларускай дзяржаўнасці? Вось жа, пасля адступлення немцаў, у Менску засталася левая частка Рады БНР і яе ўрада, якая ўсё яшчэ лічыла на магчымасць стварэння кааліцыйнага ўрада Савецкай Беларусі. Аднак гэтыя спадзяванні БНР-аўскіх палітыкаў закончыліся іх арыштам. Такім чынам была адхілена савецкімі ўладамі апошняя спроба супрацоўніцтва паміж сацыялдэмакратамі і камуністамі. У выніку, неўзабаве пасля эвакуацыі ў Гародню, урад БНР разгарнуў дыпламатычную кампанію пратэстуючы супроць бальшавіцкай акупацыі Беларусі, а паколькі не існавалі ні БССР, ні яе ўрад, гэтыя пратэсты былі абгрунтаваныя з пункту гледжання крытэрыяў міжнароднага права.

Такой сітуацыі Ленін не жадаў і, магчыма, не прадбачыў. Давялося выпраўляць памылку, што і выканаў Сталін уласцівымі яму метадамі. На працягу літаральна некалькіх дзён было зроблена ўсё неабходнае: арганізаваная воля народа, перакананыя кіраўнікі Заходняй вобласці, апрацаваны маніфест і вызначаны асабовы састаў урада з Жылуновічам як прэм'ерам. Цырымоніі адбыліся ў Смаленску і I сту-

дзеня 1919 г.быў абнародаваны маніфест, які абвяшчаў паўстанне незалежнай Беларускай Савецкай Рэспублікі. Была прынята пастанова і аб яе тэрыторыі, якая ахоплівала Менскую, Гродзенскую, Магілёўскую Віцебскую і Смаленскую губерні. Цяпер пратэсты БНР былі ўжо няшкодныя - свет мог пераканацца, што акупацыя Беларусі маскоўскімі бальшавікамі гэта "злосная выдумка нацыяналістычнай контррэвалюцыі".

Аднак ледзь толькі Жылуновіч са сваім урадам прыехаў у Менск, аказалася, што з гэтай незалежнай дзяржавы застаўся адно прыгожы ўспамін. 16 студзеня 1919 г. ЦК РКП/б/ з удзелам Леніна прыняў рашэнне аб выдзяленні з БССР Віцебскай, Магілёўскай і Смаленскай губерняў і іх далучэнні да РСФСР. Астатнія дзве губерні - Менская і Гродзенская павінны былі ўз'яднацца з Літвой і стварыць новае адміністрацыйнае фарміраванне - Літоўска-Беларускую Савецкую Рэспубліку /Літбел/. Гэтае рашэнне абазначала ліквідацыю БССР. У адрозненне ад сучасных гісторыкаў, тагачасны старшыня Ўсерасейскага Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта, Я. Свярдлоў, не скрываў, што матывам гэтага аб'яднання было "стремление ЦК обезопасить эти республики от возможности проявления в них национально-шовинистических стремлений" /Круталевіч, цыт. пр., с.188/. А гэта значыць, што не адбылася ніякая змена курсу ленінскай партыі ў адносінах да беларускага пытання, якое па-ранейшаму ігнаравалася.

Узнікае пытанне, навошта кіраўнікам Савецкай Расеі спатрэбілася ствараць БССР, якая ліквідавалася ледзь не ў дзень свайго нараджэння? Вось жа, акрамя згаданых знешнепалітычных абумоўленняў, стварэнне, ці больш правільна - абвяшчэнне гэтай нежаданай рэспублікі дало ім і іншыя карысці. Цяпер, калі ўжо "існавала" БССР, ленінскі план яе ліквідацыі мог быць праведзены рукамі "суверэнных" органаў рэспублікі ад імя вольнага беларускага народа. Імем гэтага народа прыкрываліся разгром здабыткаў БНР у галіне нацыянальнай асветы, ліквідацыя ўсіх беларускамоўных газет і часопісаў, выгнанне беларускай мовы з дзяржаўнага ўжытку, словам, тых "национально-шовинистических стремений", аб якіх гаварыў Свярдлоў.

А Жылуновіч, адзін з "айцоў" БССР? Той, здаецца, зразумеў сваю халуйскую ролю. Стараўся выратаваць ад пагрому расейскіх шавіністаў доўгачаканую рэспубліку, непагаджаўся і пратэставаў супроць ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі. Урэшце гэты трагічны прэм'ер вольнай дзяржавы быў арыштаваны - імем беларускага народа.

/Працяг будзе/

********************************

Мы ніколі не будзем разумныя чужым розумам і слаўныя чужой славай

М. Карамзін



Віктар Мароз

## Пакты, трактаты і беларусы

Падпісаны 50 гадоў таму пакт паміж гітлераўскай Нямеччынай і Савецкім Саюзам выклікае ў палякаў крайне адмоўныя ацэнкі. Гэта зразумела з іх пункту гледжання. Дагавор Рыбэнтроп-Молатаў прынёс палякам вялікую трагедыю - заняпад дзяржавы, кашмар акупацыі,мільёны ахвяр і, урэшце, трывалую страту заходняй Беларусі і Украіны. Аднак гэтая крытыка з боку палякаў вынікае не толькі з неабходнасці маральнага асуджэння пакту і яго паслядоўнасцей, яна мае таксама свой сучасны палітычны кантэкст.

У польскай легальнай прэсе вельмі далікатна ставіцца пытанне, ці правільна называць землі, далучаныя восенню 1939 года да БССР і УССР, беларускімі і ўкраінскімі, калі яны былі часткай польскай дзяржавы /"Гісторыя і Жыцце", 10 II 1989/. Прэса "другога абароту" шмат піша аб неабходнасці фарміравання правільных адносін да суседзяў, але часта падкрэслівае, што насамперш трэба зліквідаваць ялцінскі парадак, а з гэтага вынікае, што таксама і граніцы, якія з'яўляюцца рэзультатам "савецкай агрэсіі на Польшчу" у 1939 годзе /"Мендзыможе", 17 IX 1988/.

Кампраметуючы нямецка-савецкі пакт ад 23 жніўня 1939 г., палякі стараюцца паказаць не толькі яго амаральны характар у адносінах да Польшчы, але і тое, што ён парушыў акрэслены юрыдычны парадак, акцэптаваны на міжнародным узроўні. Гэты парадак стварыў Рыжскі трактат, падпісаны палякамі і бальшавікамі ў сакавіку 1921 г. Згодна з гэтым трактатам, прадстаўнікі Варшавы і Масквы падзялілі беларускую зямлю, не пытаючы беларусаў як яны хацелі б жыць на сваёй бацькаўшчыне.

У першым артыкуле Рыжскага трактата сцвярджалася,што дзяржаўная граніца будзе дзяліць Польшчу і "незалежную Беларусь".На захад ад гэтай граніцы заставалася толькі Польшча, у межах якой жылі яшчэ украінцы і расейцы, якім, як нацыянальным меншасцям,- савецкая дэлегацыя патрабавала адпаведных свабод. Аб беларусах, якія засталіся ў Польшчы, трактат нават не ўспамінаў /"Вензь", 1988, № 11-12, с. 175-176/.

Сёння шмат пішацца аб тым, што пакт Рыбэнтроп-Молатаў быў ад пачатку злачынствам супроць польскага народа і дзяржавы. А калі ён быў злачынным, тады і ўсе яго паслядоўнасці, у тым ліку змена дзяржаўных межаў, былі бяспраўнымі. Многія палякі адчуваюць сябе пакрыўджанымі і пераканаными, што за керзонскай граніцай засталася іх зямля, якую ім сілаю забралі. У некаторых польскіх асяроддзях прынята ўжо трактаваць гэтую беларускую зямлю як сваю спадчыну.

Аднак ніхто з іх не згадвае пра маральны аспект Рыжскага трактата. Чым ён быў для беларусаў? У Рызе пра іх, як нацыю, ніхто не думаў. Абодва акупанты прывыклі трактаваць беларусаў як частку сваёй нацыі і дзялілі нашу бацькаўшчыну згодна з сваімі палітычнымі інтарэсамі. Беларусь падзялілі так, як у XIX стагоддзі англічане і французы дзялілі нейкі абшар Афрыкі. Адзіным "грэхам" беларусаў было тое, што не мелі сваіх узброеных батальёнаў, але калі б іх нават мелі, нічога не маглі б зрабіць супроць суседніх імперыялізмаў

Адносіны беларусаў да падзелу бацькаўшчыны былі адназначнымі. Неўзабаве пасля падпісання Рыжскага трактата, у канцы верасня 1921 г. адбылася ў чэшскай Празе Нацыянальна-Палітычная Нарада, у якой удзельнічалі прадстаўнікі ўсіх беларускіх палітычных партый. Пражскі з'езд выдаў адозву да ўсіх беларусаў, заклікаючы іх змагацца ўсімі даступнымі і магчымымі сродкамі супроць падзелу Беларусі і Рыжскага трактата. У 1921 годзе Якуб Колас у сваім вершы адрасаваным "Беларускаму люду" пісаў:

/.../
Хіба забудзем мы тыя межы,
Што правадзілі без нас?
Раны глыбокі, ох, яшчэ свежы!
Помсты агонь не пагас.

Нас падзялілі - хто? Чужаніцы,
Цёмных дарог махляры.
К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!
Нашы тут гоні, бары!

Будзем мы самі гаспадарамі
Будзем свой скарб ратаваць!
Годзе той крыўды! Ў ногу з братамі
Пойдзем наш край вызваляць,

Аб тым, што народ не пагадзіўся з падзелам айчыны, сведчыў таксама працэс 45-ці беларускіх канспіратараў у Беластоку, які адбыўся ў маі 1923 г. На пачатку дваццатых гадоў першыя беларускія патрыёты трапілі ў турмы і на шыбеніцы. З пачуццём бяссілля і горыччу ў 1923 годзе Янка Купала пісаў у сваім вершы "Хаўруснікам" аб антыбеларускай палітыцы польскіх і бальшавіцкіх акупантаў. Верш гэты закончыў ён сумнай фразай:

Забыліся толькі
Хаўруснікі ночы
Спытаць беларуса
Чым сам ён быць хоча.

У міжваенным перыядзе не было ніводнай беларускай партыі,якая ў сваёй праграме не дамагалася б злучэння ўсёй беларускай зямлі. У гэтай справе партыі розніліся паміж сабою толькі метадамі, якімі хацелі дасягнуць гэтую мэту.

У канцы XIX і на пачатку XX стагоддзя, калі Польшча была падзелена, перад такім пытаннем стаялі польскія палітычныя групоўкі. Большасць іх лічыла, што нацыянальны інтарэс патрабуе злучэння ўсіх земляў былой Рэчыпаспалітай у межах адной імперыі. Адны ставілі на Расію, іншыя на Габсбургаў, радыкальныя сацыялісты на рэвалюцыю. Дмоўскі, які лічыў на Расію, не быў прыхільнікам такой шматнацыянальнай дзяржаўнасці. Яго погляды вынікалі з чыстай палітычнай калькуляцыі.

Падобна было і сярод беларускіх палітыкаў. Пачаткова многія з іх - Тарашкевіч, Міхайлоўскі, Луцкевіч, Дубейкоўскі, Цярэшчанка - арыентаваліся на Варшаву, але калі палякі пачалі інтэнсіўную інтэграцыю Беларусі з Польшчай, іначы кажучы, яе нахабную паланізацыю, большасць гэтых палітыкаў змяніла арыентацыю на прасавецкую.Гэтаму



працэсу спрыяла палітыка саветаў у адносінах да беларускай культуры і асветы. У другой палавіне дваццатых гадоў наступала поўная беларусізацыя рэспублікі і таму нават тыя, якія да гэтага часу былі паланафіламі, - мянялі фронт.

Разгром "Грамады" у Польшчы, пачатак калектывізацыі і барацьба з "беларускім нацыяналізмам" у БССР выклікалі патрэбу шукаць новых саюзнікаў. Але пакуль што такіх саюзнікаў не было -- ніводная еўрапейская патэнцыя не была зацікаўлена стварэннем беларускай дзяржавы. Сярод беларусіх партый адна толькі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя лічыла, што будучыню беларускага народа трэба будаваць яго ўласнымі сіламі. Як патэнцыяльных саюзнікаў хадэцыя бачыла літоўцаў і украінцаў.

У 30-х гадах камуністы з аднаго і другога боку рыжскай граніцы праводзілі фактычна антыбеларускую палітыку. Луцкевіч, Астроўскі і некалькі іншых дзеячаў тварылі ў рамках "Цэнтрасаюза" шмат арганізацый і прапагандавалі арганічную работу. І хаця "Цэнтрасаюз" дэклараваў лаяльнасць перад польскай дзяржавай, то яго кіраўнікі не выракаліся думкі аб незалежнай і аб'яднанай Беларусі. Іх метад быў зусім просты - развіваць беларускую культуру нават за грошы адміністрацыі. Іншых магчымасцей легальнай дзейнасці тады ўжо не было.

У палавіне 30-х гадоў у беларускай палітычнай думцы з'явілася новая канцэпцыя - супрацоўніцтва з Нямеччынай. Беларуская Нацыянал-сацыялістычная партыя Акінчыца паўстала тады, калі палякі амаль поўнасцю знішчылі на сваёй тэрыторыі беларускі рух /нават паланафільскі/, а бальшавікі пачыналі тварыць самы пануры перыяд гісторыі БССР, якога сімвалам застануцца Курапаты.

Некалькі месяцаў да вайны Вінцук Гадлеўскі пісаў: "Насельніцтва Беларусі чакае якіх-небудзь зменаў /.../, філасофіяй сялян ёсць: нічога не гаварыць, нічога не бачыць, нічога не рабіць. Галодныя, абарваныя, непісьменныя мужыкі не ёсць зацікаўлены ні-якімі дзеяннямі палітычнымі ці грамадскімі. Яны пойдуць з энтузіязмам за кожным, хто абяцае ім хлеб і зямлю". Доўгі час усё гэта абяцалі камуністы. І хаця іх партыю разагналі, уплывы ідэалогіі засталіся.

У верасні 1939 г. савецкая армія перайшла рыжскую граніцу,што беларусы, як правіла, прынялі прыхільна. Прычыны гэтай прыхільнасці былі розныя. Для некамуністычных груповак найважнейшым было аб'яднанне ўсіх беларускіх земляў у адной дзяржаве, перспектыва развіцця беларускіх школ і культуры. З гэтай прычыны акцэптавалі бальшавікоў нават тыя, якія перад імі ўцякалі. У студзені 1940 г. хадэцкая "Крыніца" /19 I 1940/ амаль з энтузіязмам пісала аб зменах, якія наступілі на Беларусі пасля аб'яднання ўсіх яе земляў. Антон Луцкевіч, вядомы ў 30-х гадах як кіраўнік паланафілаў, у верасні 1939 г. вітаў саветаў. Луцкевіч не быў прыхільнікам камунізму, наадварот, вёў з ім актыўную барацьбу, аднак аб яго адносінах да бальшавікоў рашала нацыянальная справа. З другога боку, савецкая ўлада пачала вынішчаць беларускую інтэлігенцыю. За рыжскай граніцай шалеў генацыд, які цяпер пачынаўся і ў заходняй Беларусі. Між іншымі быў арыштаваны Луцкевіч, які яшчэ нядаўна вітаў савецкіх камісараў.

Беларускія палітыкі, якія ўцяклі перад бальшавікамі, шукалі дапамогі ў немцаў. Яны лічылі, што раней ці пазней выбухне нямецка-савецкая вайна і тады паўстане магчымасць стварыць нацыянальную і

Праваслаўнай Царквы на новаанексіраваных да Імперыі землях, давёў да канфліктаў з духавенствам і веруючымі. Царкоўныя ўлады закрылі шмат існуючых манастыроў і парафій, вывезлі беларускіх духоўных у глыб Расіі. На іх месца прысылалася рускае духавенства, якое не ведала мясцовых традыцый і становішча праваслаўнага насельніцтва. Беларускія царкоўныя звычаі вялікарускае духавенства адкідала як уніяцкія. Такім чынам былі ліквідаваны не толькі парафіі, якія на працягу двух стагоддзяў змагаліся за захаванне веры сваіх продкаў, але таксама і мясцовыя традыцыі, як напр. "закладныя праздніکі", абрады, калядаванне. Пры гэтых зменах дайшло да парушэння мясцовых святасцей – памяншэння рангу культу святых /беларускіх/ і мясцовых царкоўных звычаяў. Пратэст насельніцтва выклікала таксама змена, асабліва пасля 1839 года, мовы пропаведзяў з мясцовай /беларускай і украінскай/ на рускую. Не пагаджалася мясцовае духавенства і на ўмешванне свецкіх улад у жыццё Праваслаўнай Царквы. Наступіла абніжэнне пазіцыі і аўтарытэту ранейшых архімандрытаў і пратапопаў. Іх месца занялі рускія ўладыкі.

Перад 1839 годам Грэка-каталіцкая Царква апынулася ў цяжкім становішчы і далейшае яе існаванне стала немагчымым. Перад царквой паўстала альтарнатыва: або яе поўнасцю паглыне Каталіцкі Касцёл, элацінізаваны і спаланізаваны, або яна ўз'яднаецца з Рускай Праваслаўнай Царквой. Гэта разумела і духавенства і веруючыя уніяцкай царквы. Нязгода ў поглядах на яе далейшы лёс выступіла сярод уніятаў асабліва пасля лістападаўскага паўстання /1830/. Яго паражэнне прыспешыла працэс пераходу уніятаў у праваслаўе. Разумеў неабходнасць гэтага і арганізатар аб'ядноўваючага сінода Язэп Сямашка, які стаяў тады ў цэнтры спраў Грэка-каталіцкай Царквы.

Язэп Сямашка нарадзіўся 25 снежня 1798 г. у вёсцы Паўлаўка Ліпавецкага павета. Яго бацька, Цімафей Сямашка, быў уніяцкім духоўным. Пачатковую адукацыю Сямашка атрымаў у праваслаўнага дыякана Бачкоўскага, пазней вучыўся ў Няміраўскай гімназіі. У 1816 годзе ён паступіў у Галоўную семінарыю ў Вільні, дзе пасля чатырох гадоў вучобы атрымаў званне доктара тэалогіі. 21 снежня 1820 г. ён атрымлівае высвячэнне на духоўнага ад луцка-астрогскага уніяцкага епіскапа Якуба Мартусевіча. Вялікія веды і інтэлектуальная пастава спрыялі таму, што Язэп Сямашка быў выбраны членам кансісторыі Луцкай дыяцэзіі. У 1822 г. яго выбіраюць старшынёй гэтага кансісторыя і Луцкім дэканам. Яшчэ ў тым жа годзе яго назначаюць прадстаўніком уніяцкага дэпартамента ў рымска-каталіцкай калегіі ў Пецярбургу. У такім хуткім авансе Сямашкі рашаючымі фактарамі былі яго арганізацыйныя здольнасці і дасканалая тэалагічная падрыхтоўка, а таксама яго адданасць справе паляпшэння матэрыяльнага і праўнага становішча уніятаў у Расійскай імперыі.

У Пецярбургу паглыбілася вынесенае з дзяцінства перакананне Сямашкі да праваслаўя. Яго зачаравала царкоўная архітэктура, жывапіс і спеў. Мастацкія ўражанні спрыялі росту свядомасці Сямашкі, што можна пазбыцца дагматычных ці арганізацыйных адрозненняў цэркваў. Гэтая ідэя стала падставай яго далейшай дзейнасці. У гэтым яму дапамагло пазнанне ў Пецярбургу праваслаўнай тэалогіі і багацця яе рэлігійных каштоўнасцей. Дзесяцігоддзе пазней ён пісаў: " Я даўно пераканаўся да праваслаўя ўсходняй царквы, і гэта дзякуючы чытанню і дакладным пошукам, а адначасова я належаў да заходняга касцёла...".



Пачатак дзейнасці ў напрамку аб'яднання уніятаў з Праваслаўнай Царквою сустрэўся з шэрагам перашкод. Супраць аб'яднання выступіла каталіцкае духавенства і значная частка уніяцкага. Непаслядоўную ў адносінах да уніятаў палітыку праводзіла іерархія рускай царквы і царская адміністрацыя. Толькі дзякуючы выключным арганізацыйным здольнасцям, Язэпу Сямашку ўдалося стрымаць лацінізацыю уніяцкай абраднасці і зацікавіць планам аб'яднання сваіх аднаверцаў, а таксама важныя персоны ў Маскве і Пецярбургу. Такую дзейнасць ён мог пачаць пасля таго, як у кансісторыі прыняў на сябе ўсе справы, звязаныя з існаваннем Грэка-каталіцкай Царквы ў Расіі.

У 1827 г. Сямашка апрацаваў мемарыял аб становішчы гэтай царквы, у якім прааналізаваў гісторыю уніі і запрапанаваў план аб'яднання уніятаў з Праваслаўнай Царквой. Праект атрымаў падтрымку цара Мікалая I. У 1828 г. былі зроблены першыя значныя крокі, якія аддзялялі уніятаў ад католікаў, м.інш. утварэнне незалежнай грэка-каталіцкай калегіі і рээрганізацыя царквы. З чатырох уніяцкіх дыяцэзій былі створаны дзве: беларуская і літоўская. Паступова Сямашка ўводзіў змены ў сістэме кіравання царквой, абрадах, традыцыі і літургіі. У Віленскую каталіцкую семінарыю забаранялася высылаць уніятаў, для якіх была арганізавана асобная семінарыя ў Жыровічах. У аснову уніяцкага навучання ўводзілася сістэма праваслаўнага школьніцтва, а ў школах уніяты былі зраўнаныя ў правах з праваслаўнымі. Уведзеныя ў 1828-1929 гг. змены давялі да аддзялення уніяцкай іерархіі ад каталіцкай, да стварэння ўласнага школьніцтва і росту праваслаўных настрояў сярод духавенства і верных Грэка-каталіцкай Царквы.

Язэп Сямашка, ведаючы гісторыю ўвядзення уніі, імкнуўся ўсімі сіламі не дапусціць да насілля пры яе ліквідацыі. Ён дасканала разумеў, што аб пастаўе верных вырашыць прыклад іх духоўных. Таму ён пісаў: "Просты народ стане праваслаўным так хутка, як хутка яго духавенства стане праваслаўным". Ацэнка Сямашкі знайшла пацвярджэнне ў гісторыі: уніяцкія парафіі хутка ставаліся праваслаўнымі, калі перайшлі на "грэчаскую веру" іх прыхадскія святары. Там, дзе святары супраціўляліся прыняццю праваслаўя, даходзіла да пратэстаў і бунтаў. Каб працэс аб'яднання меў больш лагодны характар, асаблівая роля была прыпісана уніяцкім школам, у першую чаргу семінарыям у Полацку і Жыровічах. Там выхоўвалі духоўных у духу адзінства тэалогіі і культуры з Праваслаўнай Царквой.

1829 год прынёс дзве значныя падзеі – каранацыю Мікалая I на караля Польшчы і высвячэнне Язэпа Сямашкі на епіскапа. Абодва адыгралі важную ролю ў справе аб'яднання уніятаў з Праваслаўнай Царквой. Праца над падрыхтоўкай аб'яднаўчага сінода была прыспешана ў сувязі з пачаткам лістападаўскага паўстання. Яго негатыўна асудзіла уніяцкая іерархія. Сямашка выкарыстаў удзел уніяцкіх духоўных у паўстанні як прычыну роспуску многіх базыльянскіх манастыроў. Дацэньваючы лаяльную паставу епіскапа Язэпа, царскія ўлады далі згоду, каб пасля смерці епіскапа Я.Мартусевіча, быў ён выбраны ардынарыем літоўскай кафедры. Уваход Сямашкі на гэтую пасаду практычна абазначаў пачатак аб'яднання уніятаў з Праваслаўнай Царквой.

Значнай перашкодай на гэтым шляху была палітыка новастворанай праваслаўнай дыяцэзіі ў Полацку. Епіскап Смарагд, па нацыянальнасці рускі, не ведаў спецыфікі праваслаўя на Беларусі, а тым больш уніі. Яго адміністратыўныя метады ліквідацыі уніі выклікалі шмат

падкрэсленне нацыянальнай тоесамасці яе верных. Гэта зразумеў і архіепіскап беластоцка-гданьскі Сава, уводзячы ў царкве св. Марыі Магдаліны ў Беластоку пропаведзі на беларускай мове і даючы згоду на выданне малітвеннікаў на нацыянальных мовах. Аднак ва ўмовах шматвяковага паланізатарства і 150-гадовай русіфікацыі, праблема беларусізацыі царквы патрабуе глыбокіх перамен у свядомасці іерархіі, духавенства і верных. Пакуль што богаслужбу на беларускай мове можна пачуць толькі ў праваслаўных парафіях Амерыкі і Аўстраліі і каталіцкіх - у Лондане і Вішневе.

=================================

Павел Кажух

## Эвакуацыя, чэрвень 41-га

Павел Кажух нарадзіўся 9 XII 1909 г. у Пецярбургу. Дзеяч рабочага руху, з 1928 г. член КПЗБ. Пасля далучэння заходняй Беларусі да БССР арыштаваны энкавэдзістамі, пакутваў у Беразвецкай турме каля Глыбокага, цудам перажыў масавы расстрэл вязняў падчас іх эвакуацыі ў першыя дні нямецка-савецкай вайны. Свае ўспаміны аб гэтым злачынстве энкавэдзістаў Кажух апублікаваў у газеце "Жыце Варшавы" /7 IV 1989/ Ніжэй змяшчаем іх фрагменты ў перакладзе з польскай мовы /рэд./.

Беразвечча, маляўнічая мясціна над прыгожым возерам з той жа назвай, на ўскраіне сасновага бору. Папольшчаны феадал, Карсак, пабудаваў тут у семнаццатым стагоддзі паўлінаўскі кляштар святых Пятра і Паўла. Настаў 1941 год, а я ўжо больш году сядзеў у панурых мурах гэтага былога кляштара. Храм, гаспадарчую забудову, цёмныя склепы, усё перароблена дзеля патрэб знішчэння чалавека. Мая камера мела два метры шырыні і пяць даўжыні. Трымалі ў ёй усіх нас сорак восем чалавек, у гэтым памяшканні, прызначаным для аднае асобы, што шукае духоўнага супакою.

Ужо віднела, калі пачуўся ад калідора хуткі тупат падкаваных салдацкіх ботаў. Эшалон? Прачнуўся я і слухаў, некаторыя вязні таксама. Іншыя храплі і нешта мармыталі ў сонне. Сённяшняя ноч была даволі спакойная, нікога не выклікалі на допыт, не ўпалохвалі расстрэлам, высылкаю сям'і на пагібель у лагерах. Чаму? Што асаблівае здарылася?

Раптам чую, як падкаваныя боты набліжаюцца да нашай камеры, бо самыя стражнікі заўсёды хадзілі ў гумавых тэпцях, пароблены са старых шынаў, каб мы не маглі пачуць іх. Дзверы з фыркатам расчыніліся. Мы ўбачылі салдатаў унутраных войскаў з аўтаматамі напагатове ды проціпяхотнымі гранатамі. Няма часу нават, каб збаяцца;загадваюць нам зараз жа выходзіць з камеры, з "апранахамі на падворышча". Кожны хапае, што пад рукою, і выбягае ў калідор.



Сонца марудліва падымаецца на неба і бляклым святлом праціскае ранішнюю імглу. Аднекуль чутны нейкія гукі. "Грыміць гэта, ці вайна?" Але! Пэўна вайна. Блакітнае неба крэмзаюць самалёты, злавесна рыкаюць маторамі. Дзякуй Богу, што гэта вайна, без яе не пабачыць нам свабоды. Так думалі мы, вязні.

Калі апаражнілі ўсенькія катакомбы, узяліся фармаваць калону пяцёркамі. Нядаўна арыштаваных падганялі наперад, а нас пакінулі ў канцы. Падворышча кляштара зрабілася цесным, каб усіх змясціць у ім; накіроўвалі нас вакол будынка, каб выходзілі бакавым пераходам. Калі набліжаліся мы да муроў, выразна бачылі свежа ўскопаную зямлю. Налічылі восем вялікіх такіх месцаў; не было сумненняў,што тут папрацавалі ўночы нашы апякуны. Інвалідны возік, якога не паспелі недзе адкінуць, валяўся пад мурам, бы сведка зусім нядаўняй трагедыі, якая адбылася тут /не думаў я, што неўзабаве даведаюся пра лёс ягонага ўласніка/. Выраўналі нас у калону, густа акружылі яе канваіры з аўтаматамі і гранатамі, з палкамі. Прывялі сабак-ваўчуроў, з'явіліся коннікі. Нікуды не ўцячэш! Я, усё-такі, не пазбываўся надзеі. Калі калона працягнулася на кіламетр які, камандзір канваіраў выгукнуў да нас: "Арестанты!!! Внимание!!! Шаг в сторону будет считатся как побег, конвойные будут стрелять без предупреждения! Колонна шагом марш!!!"

Стомленыя голадам і прыдушаныя цеснатою ў камеры мы ледзь валакліся, Канваіры шалёна крычалі, баяліся нямецкіх самалётаў. Усё часцей заставаўся за намі на дарозе труп, або нейкі плашч, ці бо шапка, чаравікі... Сонца нялітасціва прыпякала, а я ж паўтара года не бачыў яго. Дзеравянелі ногі, але ўспамагаў мяне страх, сіла ў прыродзе.

Калона паменшала ўжо толькі да ліку тых, хто быў нядаўна арыштаваным або яшчэ маладым; іншыя ўтрупянелі на дарогах, у адхонах. Гоняць нас пераважна палявымі дарогамі, каб менш людзей бачыла тое злачынства. Ну і каб у таямніцы. Злачыннасці патрэбна тайніца. Апераджаюць нас ганцы, якія тлумачаць навакольнаму насельніцтву, хто мы такія. Прыйшлі школьнікі, пасталі ўздоўж дарогі, якою нас гналі; стаялі дзеткі з каністрамі гатаванае вады для канваіраў. Калі праходзіў я каля падрастаючай дзяўчынкі, папрасіў у яе піць. Яна плюнула на мяне і сказала: "Кулю табе, а не вады, фашыст паганы!"

Устаў ясны ранак, сонца выходзіла з-за лесу. Мінулі ўжо тры такія раніцы, калі пакінулі мы смуродныя камеры ў Беразвеччы.Часамі пралятaлі нізка самалёты і лётчык страляў з кулямёта. Іншы раз ляцелі яны высока, не відаць было апазнавальных знакаў. Тыя, што лятaлі высока, не стралялі! Мінулі жалезны мост мы і тады самалёты што ляцелі высока, апусціліся ды кінулі на мост бомбы. Нашы канваіры дадумаліся, што гэта добры момант, каб свае кулямёты накіраваць у наш бок. Было каля кіламетра ад гэтага моста, на правым беразе Дзвіны, за мястэчкам Сіроціна. Мой інстынкт падказаў мне, каб рынуцца не пасярэдзіне дарогі, але на бераг адхону. Калі стралялі на нас з кулямёта, я скаціўся ў той роў і кулі імчалі нада мною,не чапіўшы мяне. Мае сябры нядолі, пакуль паспелі ўлегчыся на брук, ужо былі падкошаны кулямі.

Ляжаў я на плячах, чуючы, як цэлыя раі куляў, быццам агаломныя восы, гудзелі хмарынкамі блізка твару. Ляжу, вось, і бачу, што адбываецца на шашы. Побач мяне дрыгаюць у сяротным танцы: адны ад-

разу знерухомелі, відаць трапілі ім у сэрца, а іншыя ўскоквалі ўгору, распасцёршы рукі ў неба, просячы Ўсемагутнага аб паратунак; а яшчэ іншыя спрабоўвалі пакорліва кленчыць ды хрысціцца. Усіх іх выкошвала плойма гарачых куляў. Кулямёты застракацелі раптоўна і раптоўна заціхлі. Зрабілася ціш, толькі поблізу дзерліся вароны. Калі хто трохі жыў, курчыўся ў канвульсіях, тых дабівалі з наганаў або прабівалі штыкамі.

Знаходзіўся я ў адхоне, ніхто не падыйшоў да мяне. Накідалі на мяне трупаў. Ад іх цяжару ледзь дыхаў. Чую, як каты бегаюць па шашы ды злічваюць: 1773-ы, і на гэтай лічбе спыняюцца. Была гэта самая высокая лічба, якую пачуў я. Запамяталася яна мне.

Праз некалькі дзён шчасліва дабрыў я дамоў, дзякуючы помачы добрых, бедных, людзей. У Беразвеччы, ужо пад нямецкай акупацыяй, сустрэў я маці, якая шукала мяне сярод пабітых, бо ў падворышчы турмы знайшла яна маю фатаграфію. Людзі раскапалі тыя восем ямаў, у кожнай з якіх ляжала сотня закатаваных.

==================================

З РЭДАКЦЫЙНАЙ ПОШТЫ

Тамаш Хлёрка-Бабаневіч

Незабраны верш

ахвярую А..

Забраны наш Бог наша вера і цэрквы.
Айцоў-сьвятароў скамянелыя сэрцы
ня бачаць, ня чуюць людское бядоты:
іх душы прададзены, розум закуты.

Забраныя маці, забраныя сёстры,
забраныя й зімы, і леты, і вёсны.
Забраны пачуцьці – каханьне і тое...
Усё, што мы маем, стаецца чужое.

Забраныя мроі, забраныя й мары,
дзяцей летуценьні, дзяўчат спадзяваньні.
О! Колькі ж такое яшчэ мы трывацьмем!
Падмогу чужую шчэ доўга чакацьмем.

Забраны народзе, сам мусіш узьняцца!
І з воляй сьвятою ты мусіш пабрацца!
Ты мусіш, народзе; ты маеш, павінен!
Пакуль твае дзеці трывацьмуць жывыя.

..............



Забраную мову, забраную песьню
калісьці згадае народ папрадвесьні,
калісьці згадае... і жалю ня будзе!
"Зычліўцам" адплоцяць забраныя людзі.

За гвалт і за глум, за ману і няволю,
За бездань зьнявагі, за горкую долю,
за зьдзекі над мовай, за зьдзекі над песьняй
крывёю адпомсьціць народ папрадвесьні!

Забраны мой краю, давеку ты жыцьмеш!
Ярмо паднявольнае скінеш калісьці!
І як не шкадуюць цябе фарысеі,
І ты не шкадуй іх ў час лютай завеі.

..............

Пакуль я вагацьмуся, словам ці справай
табе памагчы, мой народзе ласкавы,
прамень незабраны /!/ скрозь цемру праб'ецца
Той вораг забранасьці ВЕРШАМ завецца.

/З нізкі "Блёк-нот душы"/

Рэдакцыйныя заўвагі

Жэніку з Беласточчыны. Вашы палемічныя заўвагі да артыкула В. Мароза /"Кантакт" № I/ будуць змешчаны ў наступным нумары, у якім плануецца больш матэрыялаў аб беларуска-польскіх суадносінах.

Аляксандру З. з Лондана. Фрагмент успамінаў атрымалі. Дзякуем. Прышліце тэкст да 8-10 старонак нармальнага машынапісу. Апублікуем.

Сардэчна дзякуем: Янку за 100, Сяргею за 300, сп. Асіповічу за 40 і Лявону за 5000.

---

Перадрук дазваляецца са спасылкай на крыніцу.

Падрыхтоўка выпуску закончана 30 чэрвеня 1989 г.

Змест

Ад рэдакцыі ........................................... I

Сённяшні дзень

Аглядальнік, Цярністы шлях перабудовы ў Беларусі .............. 2

З'езд БНФ .............................................. 6

З праграмнага дакладу З. Пазняка ........................ 6

З прамовы айца Я.Матусевіча ............................ 8

Тэкст прамовы В. Быкава ................................. 9

Заява З. Пазняка на прэсканферанцыі ў Таліне .................. II

А. Будзіч, Нацыянальны нігілізм і рускі шавінізм .............. I2

А. А., Што здарылася ў Беластоцкім Краі? ...................... I5

Віленчук, Віленшчына - вяртанне да традыцыі ................... I8

А.Степанов, Кто такие "тутейшие"? ............................ 20

Н. Некто, Дзяды... /фельетон/ ................................ 22

Гісторыя

Ю. Туронак, Нежаданая рэспубліка .............................. 26

В. Мароз, Пакты, трактаты і беларусы .......................... 35

А. Мірановіч, I50-я гадавіна звароту уніятаў у склад Праваслаўнай Царквы ў Беларусі .................. 39

П. Кажух, Эвакуацыя, чэрвень 4I-га ............................ 44

З рэдакцыйнай пошты

Т. Хлёрка-Бабаневіч, Незабраны верш .......................... 46

Рэдакцыйныя заўвагі ........................................ 47